STOWARZYSZENIE MUZEUM
I OŚRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
... Maja 42
... Nr inwent. ...













АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

23 жніўня 2000 года
Цана 85 рублёў

№ 34 (2696)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

МЕРКАВАННІ

## ЦІ «ПРЫБАВІЦЬ» ЭКСПАРТ?

Міністэрства замежных спраў Беларусі плануе да 2005 года больш чым на трэць павялічыць экспарт айчыннай прадукцыі і паслуг. **Міністр замежных спраў Беларусі Урал Латыпаў** ацаніў праграму развіцця экспарту як стратэгічны дакумент, які вызначае знешнеэканамічную дзейнасць усіх галін эканомікі Беларусі.

У якасці асноўных механізмаў дзяржаўнай падтрымкі экспарцёраў вызначаны павышэнне канкурэнтаздольнасці тавараў, эфектыўнасці дзейнасці маркетынгавых, дыпламатычных і гандлёва-эканамічных службаў, дыверсіфікацыя тавараправодзячых сетак беларускіх прадпрыемстваў за мяжой, стварэнне і развіццё сістэмы страхавання экспартных крэдытаў.

Вядучае становішча ў экспарце зойме прадукцыя Міністэрства прамысловасці Беларусі. Рост экспарту на прадпрыемствах плануецца забяспечыць за кошт шырокага інвесціравання, а таксама павышэння канкурэнтаздольнасці прадукцыі. Яе асновай з'яўляюцца грузавыя аўтамабілі, трактары, чорныя металы і вырабы з іх.

На думку **першага намесніка міністра эканомікі Мікалая Зайчанкі**, прагнозы на павелічэнне экспарту звязаны ў першую чаргу з рэканструкцыяй Беларускага металургічнага завода ў Жлобіне і ВА "БелАЗ" у Жодзіне, у якой удзельнічае замежны капітал. Далейшае прасоўванне прадукцыі Мінпрама, на думку М. Зайчанкі, звязана таксама "з завяршэннем распрацоўкі і выпуску сямейства трактароў новага пакалення магутнасцю да 250 конскіх сіл".

Галоўнай умовай развіцця нацыянальнага экспарту з'яўляецца лібералізацыя эканамічнай дзейнасці прадпрыемстваў, лічыць старшыня Савета па развіццю прадпрымальніцтва пры Прэзідэнце Беларусі, **прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя М. Куняўскага Тацьцяна Быкава**. На яе думку, актывізацыя экспартнай дзейнасці ў бліжэйшыя пяць гадоў магчымая толькі пры змяненні эканамічнай палітыкі ўрада.

У першую чаргу дзяржава павінна вырашыць "праблему калькуляцыі даходаў", абумоўленай курсаўтварэннем, лічыць Т. Быкава. Яна характарызуе існуючую методыку аднясення курсавай розніцы на прыбытак прадпрыемства як прамое разарэнне дзяржавай апошніх.

На думку Т. Быкавай, большасць прадпрыемстваў экспартуе роўна столькі прадукцыі, колькі неабходна для забеспячэння ўзнаўлення.

"Стрымліванне экспартнай дзейнасці тлумачыцца таксама імкненнем дзяржавы зарэгуляваць знешнегандлёвы працэс, — адзначыла яна. — Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца ўказ Прэзідэнта краіны "Аб удасканаленні парадку правядзення і кантролю знешнегандлёвых аперацый".

Т. Быкава звяртае ўвагу на рэзкае падзенне зацікаўленасці малых і сярэдніх прадпрыемстваў у знешнегандлёвых здзелках. Па даных Т. Быкавай, удзельная вага арэнднай платы ў сабекошце прадукцыі прыватных прадпрыемстваў нярэдка дасягае 30 працэнтаў, што пазбаўляе іх тавар цэнавай прывабнасці на знешнім рынку.

Нарошчванне экспартнага патэнцыялу, лічыць Т. Быкава, напрамую звязана з прыцягненнем знешніх і ўнутраных інвестыцый, прыток якіх рэальны толькі пры змяненні сістэмнага падыходу да кіравання эканомікай.

**Падрыхтавала Ірына ГАЙ.**

НАПЯРЭДАДНІ




**ВЫКАНКАМ НАК ВЫЗНАЧЫЎ САСТАЎ БЕЛАРУСКАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ НА АЛІМПІЯДЗЕ Ў СІДНЭІ.** Па прадстаўленні міністра спорту і турызму Яўгена Ворсіна ў нацыянальную зборную ўключаны 140 атлетаў, якія найбольш паспяхова выканалі высокія адборачныя нарматывы. Яны выступяць па 21 віду спорту. Агульная колькасць нашай дэлегацыі — больш як дзвесце чалавек. Акрамя спартсменаў, у яе ўваходзяць трэнеры, кіраўнікі некаторых федэрацый, урачы і іншыя спецыялісты.

Па прагнозах, рэальныя шанцы на заваяванне медалёў ёсць у лёгкаатлетаў, гімнастаў, весляроў, стралкоў, барцоў, тэнісістаў. Усяго беларускімі спартсменамі, сказаў міністр, заваявана 198 алімпійскіх ліцэнзій. Аднак, адзначыў міністр, па прычыне нізкага міжнароднага рэйтынгу больш як пяцьдзесят з іх не трапілі ў выязны састаў, хоць, улічваючы тое, што адбор у некаторых відах спорту працягваецца, магчымы замены атлетаў з ліку запасных.

**У ДОБРЫ ШЛЯХ!** Урачыстыя провады нашых алімпійцаў на Гульні-2000 у Сіднэі адбыліся 17 жніўня. Трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь уручыў двухразоваму пераможцу сусветных першынстваў па гімнастыцы Івану Іванкову дзяржаўны флаг Беларусі, які на ўрачыстым адкрыцці Алімпійскіх гульняў у Сіднэі пранясе сярэбраны прызёр Атланты-96 Сяргей Ліштван.

Першай на Зялёны кантынент адправілася зборная каманда гімнастаў.

ДЗЯДУЛЕВЫ АРЭЛІ



**Вось і заканчваецца лета. Хутка апусцеюць лецішчы і дамы вясковых бабуль і дзядуляў — у школы і дзіцячыя садзікі вернуцца іх унукі. Колькі з імі было клопату, але і радасці таксама!**

**Паедуць у горад і ўнукі 72-гадовага былога будаўніка з вёскі Падазер'е Чачэрскага раёна Мікалая ТРЫБУНАЛАВА. І яшчэ доўга будзе ўспамінаць дзятва не вельмі зграбныя, але надзейныя дзядулевы арэлі.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

БЯСПЕКА

**ЗА ПАРУШЭННЕ ПАШПАРТНАГА РЭЖЫМУ Ў БЕЛАРУСКАЙ СТАЛІЦЫ НА ПРАЦЯГУ ДНЯ ЗАТРЫМАНА КАЛЯ 60 ЧАЛАВЕК.** Паводле даных праваахоўных органаў, 18 чалавек за парушэнне юрыдычных умоў знаходжання на тэрыторыі беларускай сталіцы змешчаны ў прыёмнікі-размеркавальнікі, 3 чалавекі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. У 193 чалавек супрацоўнікі ГУУС выявілі паўторнае парушэнне пашпартнага рэжыму.

У выніку мерапрыемстваў па прафілактыцы антытэрарыстычных актаў у беларускай сталіцы праверана 805 жылых шматпавярховых дамоў.

Антытэрарыстычныя мерапрыемствы былі праведзены ГУУС у сувязі з выбухам у Маскве, які адбыўся на Пушкінскай плошчы. У антытэрарыстычных мерапрыемствах быў задзейнічаны ўвесь асабовы састаў мінскай міліцыі грамадскай бяспекі, а таксама крымінальная міліцыя.

У мэтах прадухілення антытэрарыстычных актаў на наяўнасць выбуховых устройстваў былі правераны ўваходы і выхады ў метро, падземныя пераходы, гарышчы, падвалы жылых і адміністрацыйных будынкаў. Асаблівыя меры бяспекі былі прыняты таксама на чыгуначным і аўтамабільным транспарце.

ТОЛЬКІ ФАКТ

**ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ Уладзімір ЯРМОШЫН ВЫБРАНЫ СТАРШЫНЁЙ САВЕТА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ КРАІН СНД.** Такое рашэнне прынята на пасяджэнні савета ў Маскве.

Выступаючы на сваёй першай прэс-канферэнцыі ў новай якасці, кіраўнік беларускага ўрада падкрэсліў, што для далейшага функцыянавання СНД неабходна ў першую чаргу вырашыць блок эканамічных праблем. На пасяджэнні Савета кіраўнікоў урадаў яго ўдзельнікі вырашылі правесці ў бліжэйшы час шэраг двухбаковых сустрэч, каб скарэкціраваць свае пазіцыі па шэрагу пытанняў, сказаў ён.

**У МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ ЖЫВУЦЬ 102 ЧАЛАВЕКІ, ЯКІМ БОЛЬШ ЗА 100 ГАДОЎ.** Сярод 102 доўгажыхароў 13 мужчын і 89 жанчын. 50 доўгажыхароў жывуць у горадзе, 52 — на вёсцы. Прычым, як паведамілі ў аддзеле сацыяльнай статыстыкі, у ліку 52 сельскіх доўгажыхароў толькі адзін мужчына.

ГРЫБНЫЯ АХВЯРЫ

Больш за 30 гамяльчан апынуліся ў ліпені і пачатку жніўня ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі з атручваннямі рознай ступені цяжкасці. Віной таму — грыбы. Двух пацыентаў урачам так і не ўдалося выратаваць. Як устаноўлена, напярэдадні яны прынялі за прыдатныя да ежы белыя паганкі.



## ЖНІВО





Пераадольваючы капрызы дажджлівага надвор'я, нарошчваюць тэмпы на жніве сёлетняга года хлебаробы Любанскага раёна. Ураджайнасць збожжавых вышэйшая за мінулагоднюю.

НА ЗДЫМКАХ: з поля — на ток; больш за чвэрць стагоддзя працуе камбайнерам калгаса імя Суворава Аляксандр КАМОР. Як найбольш вопытнаму механізатару, яму ў гэтым годзе даверылі новы высокапрадукцыйны камбайн "Бізон".

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА.**

## ГАСЦЁЎНЯ

# ЦЮМЕНСКАЯ «БЕЛАРУСЬ»

***Падчас візіту дэлегацыі Цюменскай вобласці ў нашу краіну старшыня Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык узнагародзіў Ганаровай граматай Дзяржкамітэта за вялікі ўклад у справу захавання беларускіх нацыянальных традыцый і ўмацаванне дружбы паміж народамі Беларусі і Расіі старшыню праўлення Цюменскай абласной грамадскай арганізацыі Нацыянальна-культурнае таварыства "Беларусь" Уладзіміра ШУГЛЮ.***

***Уладзімір Фёдаравіч — вядомы ў Цюмені прадпрымальнік, прэзідэнт холдзінгавай кампаніі "Гандлёвы дом "Мангазея", адзін з ініцыятараў стварэння таварыства. Дзякуючы яго актыўнай пазіцыі і спонсарскай дапамозе, НКТ "Беларусь" мае свой офіс, аргтэхніку і неабходныя фінансавыя сродкі. І ў Беларусь ён прыехаў, каб наладзіць больш цеснае супрацоўніцтва з дзяржаўнымі і грамадскімі арганізацыямі. Госць згадзіўся адказаць на пытанні, звязаныя з дзейнасцю таварыства.***

**— Уладзімір Фёдаравіч, раскажыце, калі ласка, калі ўзнікла НКТ "Беларусь" і якія ў яго задачы.**

— Таварыства вельмі маладое, якраз 14 жніўня яму споўнілася толькі тры гады, але яно ўжо добра вядомае ў Цюменскай вобласці, дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў розных культурна-масавых мерапрыемствах, па выступленнях па мясцоваму радыё, на тэлебачанні.

Сярод галоўных задач, якія ставіць перад сабой таварыства, — задавальненне нацыянальных духоўных і культурных патрэбнасцей выхадцаў з Беларусі, што пражываюць у Цюменскай вобласці, распаўсюджванне праўдзівай інфармацыі пра сучаснае жыццё на Беларусі і ўмацаванне традыцыйных сяброўскіх адносін паміж народамі, якія жывуць у Цюменскай вобласці, і ў першую чаргу, паміж славянскімі.

**— Колькі людзей аб'ядноўвае ваша арганізацыя і якога ўзросту!**

— НКТ "Беларусь" налічвае звыш 100 сяброў. Розныя па ўзросту, сацыяльнаму становішчу людзі. Сярод іх ёсць і тыя, хто сёння займае адказныя пасады ў кіраўніцтве горада і вобласці: мэр Цюмені С. Кірычук, дэпутат Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі ад Цюменскай вобласці Г. Райкоў, рэктар Цюменскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў і культуры М. Капека і іншыя. Дарэчы, ідэі і мэты таварыства, яго дзейнасць сталі прыцягальнымі і для некалькіх рускіх. Пры таварыстве створаны і дзейнічаюць секцыі — для ваеннаслужачых, моладзі, ветэранаў. Узначальваюць секцыі члены праўлення, людзі энергічныя, здольныя арганізаваць вакол сябе іншых, такія, як Леанід Ксяндзоў, палкоўнік, былы намеснік кіраўніка цюменскага абласнога ваенкамата, ён аб'яднаў вялікую групу ваеннаслужачых (якія яшчэ служаць і ў адстаўцы), Юрый Куліна ўзначальвае секцыю моладзі, Ларыса Шпартава адказвае за работу сярод пенсіянераў.

**— За гэтыя тры гады што асабліва цікавага было зроблена!**

— Створаны нацыянальны беларускі фальклорны калектыў — ансамбль "Лянок", які вельмі хутка стаў папулярным не толькі ў жыхароў Цюмені, але і іншых гарадоў вобласці, яго запрашаюць на многія святы. У складзе ансамбля 12 чалавек, а яго душа і мастацкі кіраўнік — Тамара Грыгор'ева, выпускніца беларускай кансерваторыі па класу цымбал. Арганізаваны дзіцячы ансамбль "Пралескі". З кожным выступленнем гэтых калектываў расце колькасць жадаючых стаць іх удзельнікамі.

У студзені 1999 года пачала працаваць беларуская нядзельная школа, у якой дзеці і ўнукі беларусаў Цюмені вывучаюць беларускую мову і літаратуру, знаёмяцца з гісторыяй і культурай, з сучаснай Беларуссю. Хочацца падзякаваць на старонках газеты старшыні Саюза кампазітараў Беларусі, вядомаму кампазітару Ігару Лучанку, які дапамог арганізаваць экскурсію для групы цюменскіх беларусаў і іх дзяцей па Мінску, у Хатынь, на Курган Славы. Ігар Міхайлавіч з памочнікамі сустракаў цюменцаў на вакзале, затым запрасіў іх у Саюз кампазітараў, дзе іх вельмі цёпла прымалі і нават наладзілі невялікую канцэртную праграму. Гэта паездка ім запомніцца на ўсё жыццё. Дзякуючы І. Лучанку, які, дарэчы, з'яўляецца ганаровым членам таварыства НКТ "Беларусь", была арганізавана паездка групы беларускіх артыстаў на чале з самім кампазітарам у Цюмень на святкаванне Дзён славянскай пісьменнасці.

Створана футбольная каманда "Белая Русь", якая займае другое месца ў вобласці па міні-футболу.

Па ініцыятыве таварыства, аддзялення пасольства Беларусі ў Расіі і кіраўніцтва Цюменскага дзяржаўнага універсітэта на кафедры агульнага мовазнаўства адкрыта спецыялізацыя "Беларуская мова і літаратура".

Акрамя гэтага, таварыства дапамагае вырашаць бытавыя праблемы, аказвае пасільную матэрыяльную дапамогу ветэранам вайны і тым, хто асабліва мае ў гэтым патрэбу.

**— Чаго вы чакаеце як старшыня праўлення ад гэтай паездкі!**

— Дзейнасць беларускіх аб'яднанняў была б больш прадукцыйнай, калі б з боку дзяржавы аказвалася нейкая дапамога, напрыклад, камплектамі кніг на беларускай мове, краязнаўчымі матэрыяламі, беларускімі нацыянальнымі касцюмамі, інструментамі. Напрыклад, Украіна прадаставіла свайму цюменскаму аб'яднанню офіснае абсталяванне, літаратуру, вучэбныя дапаможнікі, Польшча выдзеліла сродкі на набыццё нацыянальных касцюмаў і г. д. Мы пакуль такой дапамогі не атрымліваем, хаця звярталіся ў многія арганізацыі і пакуль атрымалі толькі адпіскі.

Задум шмат: плануем выпусціць кнігу "Беларусы ў Цюменскай вобласці", стварыць музей гісторыі асваення беларусамі Цюменскай вобласці, расшырыць таварыства за кошт новых філіялаў па гарадах вобласці і іншае. Хацелася б адкрыць "Беларускі гандлёвы дом", дзе маглі б гандляваць таварамі беларускіх вытворцаў, каб дапамагчы землякам расшырыць рынкі збыту. Але для ажыццяўлення ўсяго гэтага патрэбна разуменне і падтрымка з боку дзяржавы і грамадскіх арганізацый. Вось і думаем падчас сустрэчы вырашыць некаторыя з гэтых праблем.

**— Вялікае дзякуй за размову і шчырае прывітанне цюменскім беларусам ад землякоў.**

**Таццяна КУВАРЫНА.**

## ЧЫТАЧ ЦІКАВІЦЦА

# ЯК ТРАПІЦЬ У

***Каб працаўладкавацца на Беларусі з замежным пашпартам, трэба атрымаць від на жыхарства. Пра правілы яго набыцця "Голас Радзімы" плануе расказаць у адным з наступных нумароў. Калі ж дазволу на пастаяннае жыхарства няма, неабходна знайсці беларускі суб'ект гаспадарання, які мае ліцэнзію на працаўладкаванне замежных грамадзян. Для прыкладу — Камітэт па міграцыі ў 1994 годзе выдаў 60 такіх дакументаў, прыехалі 105 замежных грамадзян. Летась жа ліцэнзій было 99, па якіх працавала 2 198 чалавек. Большасць людзей (1 821) — з Украіны, 113 з Арменіі, 70 з Расіі, 62 з Латвіі, 21 з Турцыі. Лідэры ў працаўладкаванні — украінцы — застаюцца часцей за ўсё ў прыгранічных раёнах Брэсцкай вобласці. Згаджаюцца на некваліфікаваную працу прыбіральшчыц, санітараў у шпіталях.***

Галоўны спецыяліст Упраўлення знешнепрацоўнай міграцыі і Камітэта па міграцыі пры Міністэрстве працы Міхаіл ДРУЗІК паведаміў, што, каб атрымаць ліцэнзію, арганізацыя плаціць штогод 7 мінімальных заработных плат за кожнага чалавека. Летась даход дзяржавы ў выніку апошняга склаў 6 мільярдаў 290 тысяч недэнамінаваных рублёў. За першае паўгоддзе 2000 года — 6 064 350 рублёў.

Працаўладкаванне ў Мінску — наогул вельмі няпростая задача для неграмадзян РБ. Па-першае, усе замежныя грамадзяне і асобы без грамадзянства (пасля 18-гадовага ўзросту) павінны быць зарэгістраваны ў органах МУС і плаціць 20 працэнтаў мінімальнай заработнай платы за кожны дзень пражывання ў Мінску. Не прыйдзецца траціцца грамадзянам СНД, якія зарэгістраваліся па месцу жыхарства блізкіх сваякоў (бацькоў, дзяцей, мужа ці жонкі, родных братоў, сясцёр, дзядуль, бабуль, унукаў, апекуноў).

Можна пазбегнуць платы ў выключных выпадках па рашэнню гарвыканкама. Калі ж прадпрыемства не з'яўляецца выключэннем, то ўносіць у бюджэт Мінска за прыняцце на працу іншагародняга 500 мінімальных заработных плат штогод. Мяркуйце самі, ці выгадна наймальніку браць на працу чалавека без мінскай прапіскі.

Атрымаць працу без ліцэнзіі можна ў сельскай гаспадарцы. Мясцовыя ўлады хадайнічаюць аб прыцягненні людзей на сезонныя работы з-за мяжы. Летась у Віцебскай вобласці па запрашэнню яе адміністрацыі працавала 5 тысяч чалавек з замежжа, у Брэсцкай — каля 4 тысяч чалавек, Мінскай — 300 чалавек. Але Міхаіл Друзік заўважае: "Нельга расцэньваць такі шлях асноўным, каб апынуцца на Беларусі. Большасць тых, хто трапляе на сельгаспрацы, мающь трывалыя прыватныя сувязі на Беларусі і прыязджаюць сюды не першы раз". Існуе сістэма прэферэнцый, што тычыцца раёнаў, пацярпелых ад аварыі

## СПОРТ

**МОТАСПОРТ.** Упершыню ў Беларусі ў горадзе Ваўкавыску прайшоў этап чэмпіянату свету на матацыклах з калясками. Больш 50 тысяч гледачоў, 30 лепшых спартсменаў планеты з 14 краін і бескампрамісная барацьба гоншчыкаў у заездах — незабыўныя імгненні.

Сенсацыяй жа стала выдатнае выступленне спартсменаў з Латвіі, якія здолелі абысці нават галандцаў, чэмпіёнаў свету Даніеля Вільемсена і Свена Вербруге, лідэраў чатырох этапаў.

Пасля сусветнага першынства на ваўкавыскай трасе прайшоў і чэмпіянат Беларусі. Тут ніякіх сенсацый не адбылося. Гоншчык з Ашмян Аляксандр Гіруць пацвердзіў свой клас і званне лепшага спартсмена Беларусі.

**ВАЛЕЙБОЛ.** Першую перамогу атрымалі валейбалісткі нацыянальнай зборнай у адборачным турніры чэмпіянату Еўропы-2001. У гасцях нашы дзяўчаты выйгралі ў каманды Польшчы — 3:1.

**СУЧАСНАЕ ПЯЦІБОР'Е.** На чэмпіянаце свету, які завяршыўся ў Італіі, беларусы прыбавілі да алімпійскай ліцэнзіі Жанны Шубянок яшчэ адну. Як паведамілі ў нацыянальнай федэрацыі, яе ўладальнікам стаў Павел Доўгаль.

**ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ.** У Маскве завяршыўся чэмпіянат Еўропы, у якім удзельнічалі 130 спартсменаў з 20 краін. Беларускія воднalыжнікі занялі першае агульнакаманднае месца. У актыве таксама "золата" і "бронза" ў Алега Дзевятоўскага ў мнагабор'і і фігурным катанні, "серабро" ў Аляксея Жарнасека і Марыны Басінскай у фігурным катанні.



На чэмпіянаце Еўропы па ўсходніх адзінаборствах у Румыніі, дзе, дарэчы, добра выступіла беларуская каманда, пяцёра беларусаў, у тым ліку двое гамяльчан, атрымалі права судзіць на міжнародных спаборніцтвах такога тыпу.

НА ЗДЫМКУ: суддзі міжнароднай катэгорыі гамяльчане Іван КУГУТ і Міхаіл ГУЦАЎ.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,** БелТА.



# БЕЛАРУСЬ НА РАБОТУ?

на Чарнобыльскай АЭС. У 1996 годзе прынята пастанова Савета Міністраў "Аб выдачы дазволу на пастаяннае жыхарства замежным грамадзянам і асобам без грамадзянства для работы ў населеных пунктах, размешчаных у зонах наступнага адсялення і з правам на адсяленне, а таксама ў зоне з пражываннем з перыядычным радыяцыйным кантролем". У выпадку станоўчага рашэння аблвыканкама аб працаўладкаванні (яно наўрад ці можа быць іншым з прычыны вострага недахопу кадраў у названым рэгіёне Беларусі) дазвол на пастаяннае месца жыхарства аўтаматычна выдаецца органамі МУС. Трэба заўважыць, што на тых замежных грамадзян, якія ўладкоўваюцца жыць і працаваць у зоне, не распаўсюджваюцца правы і льготы, устаноўленыя Законам "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС".

Акрамя законнага, існуе нелегальнае працаўладкаванне, якое на Беларусі не мае вялікіх памераў. Камітэт па міграцыі праводзіць планавыя і выбарачныя праверкі суб'ектаў гаспадарання. Напрыклад, пад пільнай увагай знаходзіцца будаўнічы комплекс. Летась было праверана 897 аб'ектаў будаўнічай галіны, дзе працуе 431 іншаземец. 26 з іх атрымалі месца працы з парушэннем беларускага заканадаўства. Нязначная колькасць нелегалаў тлумачыцца невялікімі зарплатамі на Беларусі. Можна сказаць, што нізкі ўзровень жыцця ў нас абараняе краіну ад нелегалаў.

Жыхары СНД, жадаючы палепшыць сваё матэрыяльнае становішча, часцей за ўсё накіроўваюцца працаваць у сталіцу Расіі і Санкт-Пецярбург. Тым не менш, прадугледжана сістэма штрафаў як для наймальніка, так і для таго, хто працуе нелегальна. Уладальнік ці кіраўнік прадпрыемства за незаконнае прыцягненне да працы неграмадзян Беларусі павінен заплаціць 15 мінімальных заработных плат (1 мінімальная заработная плата — 2 200 рублёў), а апошні — 20.

Практыка дэпартацыі з Беларусі амаль адсутнічае. Для дзяржавы вельмі дорага набыць білет нават для той невялікай колькасці нелегалаў, якіх затрымліваюць. Выключэнне — краіны СНД. Міхаіл Друзік падкрэслівае: "Камітэт па міграцыі выдае ліцэнзіі, улічваючы эканамічную абгрунтаванасць запрашэння таго ці іншага спецыяліста. Зразумела, наша краіна не зацікаўлена ў з'яўленні на сваёй тэрыторыі вялікай колькасці нізкакваліфікаваных рабочых. У нашых інтарэсах, каб прыязджалі добрыя спецыялісты ва ўсіх галінах. З дапамогай службы занятасці мы вывучаем рынак працы. І тлумачым, калі да нас звяртаюцца па ліцэнзію, становішча з працоўнымі па тых ці іншых спецыяльнасцях. І калі ў даным рэгіёне ёсць беларускія работнікі неабходнай кваліфікацыі, яны павінны мець прыярытэт у працаўладкаванні. Кантроль за патокам працоўнай сілы — агульнапрынятая практыка. На жаль, сёння дзяржава не можа нейкім чынам дапамагаць у пошуках працы беларусам з замежжа. Ёсць некаторыя праекты. Але рэальна пераезд, пасяленне, пошук працы — гэта ўласны клопат кожнага".

**Алена СПАСЮК.**

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



Муж і жонка Хрысціна і Пэтэр КАЎФМАНЫ збіраюць гуманітарную дапамогу ў Германіі і часта прыязджаюць у Беларусь. Тут яны супрацоўнічаюць з дабрачыннымі арганізацыямі, дапамагаюць старым, сіротам і інвалідам. Нядаўна нямецкія сябры зноў пабывалі ў Крычаўскім раёне і прывезлі гуманітарную дапамогу. Радасна сустрэлі іх дзеці з Бельскага інтэрната-прытулка (на здымку).

**Фота Валерыя БЫСАВА,** БелТА.

## ЗДАРЭННІ



Супрацоўнікамі Гомельскага ўпраўлення ўнутраных спраў затрымана злачынная групоўка, на рахунку якой нямала цяжкіх злачынстваў. У ліку мер пакарання затрыманым прадугледжана і канфіскацыя маёмасці. Якое ж было здзіўленне работнікаў праваахоўных органаў, што прыбылі на месца канфіскацыі маёмасці, калі яны ўбачылі, што аснову яго складалі ордэны, медалі, даўнейшыя манеты, вырабы з серабра, прадметы даўніны, якія ўяўляюць гістарычную і мастацкую каштоўнасць.

**БелТА.**

**ВЫБРЫКІ СТЫХІІ.** Зноў вяскоўцы нацярпеліся ад вынікаў шквалістага ветру, які прайшоўся па тэрыторыі Гомельскай і Брэсцкай абласцей.

У Маларыцкім і Кобрынскім раёнах, па папярэдніх даных, ад разраду маланкі загінула 14 галоў буйной рагатай жывёлы і конь, якія знаходзіліся на пашы.

У Мазырскім раёне градам пабіта 75 гектараў пасеваў кукурузы і 65 гектараў збожжавых. На Мазырскай гародніннай фабрыцы разбіта больш за 300 квадратных метраў шкла на цяпліцах. У Рэчыцкім раёне пашкоджана 12 кіламетраў ліній электраперадач, абясточана 17 населеных пунктаў.

**ЗВОДНІЦА ЗАТРЫМАНА.** Супрацоўнікі Цэнтральнага РАУС горада Магілёва вярнулі дадому чатырох дзяўчат, якія накіроўваліся ў Маскву на "заработкі". На месцы злачынства была затрымана і зводніца — 24-гадовая беспрацоўная магіляўчанка. Супраць яе ўзбуджана крымінальная справа і вядзецца следства.

## ПАМЯЦЬ






● **Іосіф ЗАЯЦ.**

Раніцай дзяцей адправілі пешшу ў Драздры, што побач з Мінскам. Тут, у былым санаторыі, іх ужо чакала спецыяльная "сартыравальная каманда", якую ўзначальваў фашысцкі доктар Бот. З самым сур'ёзным выглядам знаўцы, узброіўшыся кронцыркулем, ён мераў галовы дзяцей, тыкаў пальцам у жывот, пасля чаго дзяцей кідалі ў спецыяльную машыну. На ёй "неарыйцаў" адвозілі ў Мінск, дзе неўзабаве яны знішчаліся.

Да пакінутых у Драздах часта наведваліся людзі ў чорнай форме СС. Яны адбіралі чарговыя партыі дзяцей для работы ў Германіі. Джым уцёк. Ён трапіў у дзіцячы прытулак, арганізаваны ў час акупацыі мінскімі ўрачамі і настаўнікамі на далёкай ускраіне горада, у падвале дома. Там знаходзіліся дзеці расстраляных фашыстамі партыйных і савецкіх работнікаў, а таксама партызан і падпольшчыкаў, якія загінулі: беларусы, рускія, украінцы, яўрэі... Фашысты рэдка заглядвалі сюды, а калі з'яўляліся побач, дык, убачыўшы фасад змрочнага аднапавярховага дома, спяшаліся хутчэй адысці. На дзвярах вісела вялікая дошка з надпісам "Сыпны тыф". Сюды і трапіў дзевяцігадовы Джым Камагораў. Тут ён перажыў страшны час акупацыі, дачакаўся вызвалення. Цяжка ўявіць сабе лёс беднага негрыцяняці, калі б не добрыя людзі...

Надыходзіла зіма 1941 года, яна несла новыя беды вязням драздоўскага лагера. Сціплая вопратка не ратавала ад халадоў. Пачасціліся ўцёкі з лагера. Некалькі разоў спрабавалі ўцячы Эрык Гаруноў і Уладлен Бадзіян. Але іх лавілі, вярталі ў лагер і жорстка білі. Ачуняўшы ад пабояў, хлопцы рыхтавалі новы план. З апошняга ўцёку, які таксама не ўдаўся, Эрык не вярнуўся. Знясілены, ён неглыбока закапаўся ў снег і замерз. Яго сябра Уладлена немцы злавілі і перакінулі ў іншы, больш страшны лагер — у Астрашыцкі Гарадок, адкуль у 1942 годзе ён з групай малых і асабліва знясіленых дзяцей быў дастаўлены ў Сёмкава, непадалёку ад Мінска, дзе дзяцей чакала галодная смерць.

Восенню 1943 года па навакольных вёсках разнеслася страшная вестка: азвярэлыя няўдачамі фашысты пачалі падрыхтоўку да ліквідацыі Сёмкаўскага дзіцячага дома.

Гэтыя жахлівыя задумы фашысцкіх карнікаў сталі вядомыя партызанскай брыгадзе "Штурмавая". Было прынята рашэнне выратаваць дзяцей. У суровую лютаўскую ноч 1944 года пад самым носам у фашыстаў партызаны зрабілі налёт на Сёмкава і выратавалі ўсіх 270 маленькіх вязняў. Каля 50 павозак, загадзя падрыхтаваных у партызанскай зоне, перавезлі дзяцей у бяспечнае месца.

Сярод выратаваных быў сын аўстрыйскага камуніста Зігфрыда Бадзіяна. Раніцай гітлераўцы ўзнялі трывогу, кінуліся ў пагоню за партызанскім абозам. Але ўжо было позна...

У партызанскай зоне, ачышчанай ад акупантаў, дзяцей акружылі ласкай, цеплынёй і клопатам. Сотні беларускіх сялянак з вёсак Бяседы, Дашкі, Лысая Гара, Забор'е прыходзілі ў штаб і настойліва прасілі даць ім на выхаванне дзіця.

Уладлен Бадзіян знайшоў прытулак у вёсцы Дашкі. Простыя беларускія сяляне — Максім і Параска Панышы — замянілі бацькоў аўстрыйскаму хлопчыку.

Летам 1944 года прыйшла Чырвоная Армія, і Уладлену пашчасціла праз аднаго афіцэра паслаць пісьмо сваім бацькам. Хутка па яго прыехала Ганна Гульбінская.

...Мінулі гады. Разам з бацькамі ён вярнуўся на радзіму — у Аўстрыю, скончыў інстытут і працаваў дырэктарам фірмы "Ангер". Актыўна падтрымліваў гандлёвыя сувязі з СНД.

Так склаўся лёс трох хлопчыкаў, якіх адправіла Мальвіна з абозам параненых.

...Дзеці, якія засталіся ў Наваельні, сабраліся ў вялікім пакоі школьнага будынка, каб вырашыць, што ім рабіць далей. Адны прапаноўвалі чакаць аўтобуса, другія — дабірацца дадому самастойна.

У Маскву вырашылі ісці пяцёра: кітаец Ван Лі Ізмайлаў, балгарын Іонка Чынгелаў, рускі Ігар Астаф'еў, славак Юлій Герэ, кітаец Юра Галавін. Юлій Герэ ўгаворваў сваю сястру Валю ісці разам з ім, але Валянціне не хацелася пакідаць сяброўак. І пяцёра хлопцаў пайшлі на ўсход. У кожнага праз плячо была перакінута сумка, дзе ляжалі рэчы, крыху хлеба і цукру. Па дарозе з Наваградка ў Мінск ішлі людзі, пакінуўшы родныя мясціны. Разам з бежанцамі пайшлі і яны.

У гэтым дарожным пекле Ігар Астаф'еў і Ван Лі і не заўважылі, як засталіся ўдвух. Дайшлі да Мінска. Пераначавалі ў падвале разбуранага дома, затым прабраліся да шашы, дзе на ўзбочыне быў паказальнік "Да Масквы 730 км". Ежа даўно скончылася, і хлопчыкі елі тое, што знаходзілі па дарозе, на месцах нядаўніх баёў.

На ўскраіне Барысава Ван Лі спыніўся і загадаў Ігару ісці наперад. Ігар крануўся... Ван Лі даўно ўжо павінен быў дагнаць сябра, але яго ўсё не было. Ігар сеў ля дарогі і пачаў чакаць. Сцямнела. Раптам адтуль, дзе павінен быў з'явіцца Ван Лі, пачуўся прыглушаны выстрал, і ўсё сціхла. Так загінуў Ван Лі Ізмайлаў — сын вядомага дзеяча КПК Ло Фу (Чжан Вэнь Цянь).

...Ісці было страшна, але Ігар, нягледзячы на ўсе нягоды, дайшоў да Смаленска. За горадам хлопца спынілі немцы, вярнулі назад і накіравалі ў лагер для перамешчаных асоб, дзе пратрымалі Ігара да канца 1941 года. Затым другі лагер. Быў паранены, папаў у шпіталь. А там, як і ў лагеры, калючы дрот, вартавыя, хлеб напалову з пілавіннем, вадкая баланда...

Пасля ўцёку Ігар прыйшоў у вёску Старыя Пачары і наняўся падпаскам. Пасвіў кароў да восені 1943 года. Набраўся сіл, толькі вось часам непакоіла нага. Калі вёску вызвалілі, Ігар пешшу дабраўся да Ельні, дзе ўжо былі савецкія войскі. З паранелымі даехаў да Масквы.

Маці дзяцей, якія паехалі ў Наваельню, у роспачы звярталіся ў палітаддзелы франтавых часцей, у органы міліцыі, пасылалі пісьмы, заявы, запыты. Ніякіх вестак. І раптам адзін знайшоўся! Сам прыйшоў у Маскву! Гэта быў Ігар Астаф'еў, які перанёс лагеры, раненні, голад, здзекі фашыстаў.

...Пасля доўгіх блуканняў па пакутах Іонка Чынгелаў, Юра Галавін і Юлій Герэ дабраліся да Смаленска. Сярод бежанцаў хадзілі чуткі, што ў горадзе ідуць аблавы, а ўсіх затрыманых адпраўляюць у лагеры. Хлопчыкі жылі ў хляве непадалёку ад чыгуначнага палатна.

Працяг. Пачатак у № 33.

## СІТУАЦЫЯ

# ДЫК ХТО Ж СТВАРАЕ ПРАБЛЕМУ?

8 жніўня 2000 года закрыўся для руху транспарту пункт пропуску праз дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча "Брузгі — Кузніца Беластоцкая".

Насуперак ісціне польскія рэгіянальныя СМІ ў гэтай сувязі паспрабавалі прадставіць справу такім чынам, быццам бы беларускі бок у аднабаковым парадку прыняў рашэнне аб спыненні руху праз пагранпераход "Брузгі — Кузніца Беластоцкая". Акрамя таго, прагучала сцвярджэнне, што "закрыццё руху ў Кузніцы Беластоцкай стала нечаканасцю не толькі для грамадзян, але і для кіраўніцтва Падляскага ваяводства і пагранічнай службы Польшчы".

У сувязі з гэтым Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь інфармуе, што пункт пропуску "Брузгі — Кузніца Беластоцкая" закрыты па ініцыятыве і настойліваму патрабаванню польскага боку. Беларускі бок першапачаткова выступаў супраць закрыцця данага пункту пропуску ў прапанаваныя польскім бокам тэрміны.

Дамоўленасці аб закрыцці пункту пропуску былі дасягнуты ў час рабочых сустрэч прадстаўнікоў пагранічных і мытных служб Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча, а таксама ў выніку абмену дыпламатычнымі нотамі.

Такім чынам, абвінавачванні, якія гучалі ў гэтыя дні ў польскіх СМІ, не маюць пад сабою ніякіх падстаў. Тым не менш МЗС Беларусі сумесна з іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання будзе прымаць усе неабходныя меры для забеспячэння бесперашкоднага перасячэння беларуска-польскай мяжы. Так, для арганізацыі руху праз дзяржаўную мяжу Рэспублікі Беларусь з Рэспублікай Польшча па ўзаемнай згодзе бакоў адкрыты для пасажырскага руху пагранпераход "Берастав іца — Бабpоўнікі".

**Прэс-служба Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.**

## СУПРАЦОЎНІЦТВА




● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Пасля аб'явы расійскай карпарацыяй "Падмоскоўе" конкурсу праектаў на будаўніцтва малапавярховага пасёлка ў Хімках паступіла шмат прапаноў не толькі ад расійскіх, але і ад заходніх фірм. Тым не менш, распрацоўка інстытута "Гомельпраект" прайшла па-за канкурэнцыяй, яна была выйгрышнай і па ідэйнаму ўвасабленню, і па цэнавых параметрах. Забудову пасёлка Навагорск вялі гомельскія прадпрыемствы ДБК і "Гомельпрамбуд". На базе Навагорска расіяне правялі семінар, адзначыўшы стварэнне такога пасёлка для жыхароў сярэдняга дастатку як падзею года. 110 дамоў маюць там неабходныя камунікацыі, газоны, разгорнутую інфраструктуру ў выглядзе аўтамагістралей, стаянак, гандлёвых цэнтраў...

"Гомельпраект" — першы ўладальнік на Гомельшчыне міжнароднага сертыфіката якасці, які дазваляе працаваць у Еўропе, а на рэспубліканскім фестывалі архітэктуры ў Брэсце ў мінулым годзе стаў пераможцам у дзвюх намінацыях.

НА ЗДЫМКУ: галоўныя архітэктары праектаў Сяргей КАВЫРОЎ, Рыгор ЦІХАЎ Вольга ЦІХАВА, Людміла ВЕРХАЛАТ, Соф'я МАРЫНАВА.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# СВЯТА Янкі КУПАЛЫ Ў АРГЕНЦІНЕ

Нядаўна супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы атрымалі ліст з пасольства Рэспублікі Беларусь у Аргенцінскай Рэспубліцы. У ім паведамлялася, што 29 ліпеня 2000 года пад эгідай FICSA (Федэрацыя аб'яднанняў былых савецкіх грамадзян у Аргенцінскай Рэспубліцы) праведзена вялікае свята — фестываль, прысвечаны 118-й гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы.

У свяце прынялі ўдзел усе клубы, якія з'яўляюцца членамі гэтай арганізацыі (іх каля дзесятка).

Афіцыйнае запрашэнне на фестываль атрымала і пасольства Рэспублікі Беларусь.

Ліст з такім зместам крануў і расчуліў нас, супрацоўнікаў музея Янкі Купалы: у далёкай Аргенціне людзі памятаюць пра нашу Беларусь, пра свайго Янку Купалу...

Такі факт навёў і на глыбокі роздум аб тым, якую ж незвычайную сілу і ўладу над намі мае сваё, роднае. Яно, напэўна, нараджаецца з намі і для нас назаўсёды. І дзе б чалавек ні быў, ён усведамляе сапраўдны кошт сціплай непаўторнасці роднай беларускай прыроды, роднага слова, нашай багатай спадчыны і нават сённяшняга нашага далёка не салодкага жыцця, і першай кветкі, і апошняга пажоўклага лістка... Якую ж уладу мае над намі Радзіма і ўсё, што ўваходзіць у нас з першым дыханнем!

Мы ўдзячныя нашым суродзічам, што яны не забылі, не згубілі гэтых сэрцу мілых з'яў і вобразаў, што адчуваюць сёння ў далёкай Аргенціне неабходнасць сувязі з родным краем, з Купалавым словам, з духам беларускасці.

Зразумела, супрацоўнікі музея Янкі Купалы адгукнуліся ўдзячным прывітальным словам да прыхільнікаў паэзіі вялікага Купалы. Спадзяемся, роднае беларускае слова будзе вялікай пяшчотай і матчынай ласкай для нашых землякоў у Аргенціне!

Наладжанае свята дало вялікую радасць і прасвятленне душам беларусаў, якія далёка ад сваёй Бацькаўшчыны сёння!

Няхай заўсёды і паўсюль магутным абярогам землякам нашым будзе Купала, Беларусь і простая малітва:

Не пакідай, Высокі Божа,
Без лампады наш алтар,
Без гімна — Купалава
падножжа,
Душу — без веры
і без мар.

**Алена БУРБОЎСКАЯ,**
**вучоны сакратар**
**Літаратурнага музея**
**Янкі Купалы.**

## ВЕСТКІ З СУПОЛАК

# СВЯТЛО МАКСІМАВАЙ ЗОРКІ

Размова пра зорку Максіма Багдановіча, якая з часам уздымаецца ўсё вышэй і вышэй ды зырчыць усё ярчэй і прывабней, прасвятляючы душы сучаснікаў дабром, ратуючы ад спаняверанасці. Ён, наша абвостранае сумленне, жывучы ўдалечыні ад Беларусі, палюбіў сваю высненую "краіну-браначку" самай светлай і шчырай любоўю, што, аднак, не замінала яму глядзець праўдзе ў вочы і рэальна ацэньваць духоўны стан народа, быць пры гэтым бескампрамісным, нават жорсткім там, дзе праяўлялася самаганьбаванне.

Мы яшчэ як след тэарэтычна не асэнсавалі філасофіі нацыянальнага выжывання, падмурка, закладзенага жыццём і творчасцю Максіма Багдановіча. Але практычна, у рэальным жыцці жывём паводле Багдановіча. Бо не ўяўляецца духоўна паўнацэнны беларус, які б не адчуў на сабе ўздзеяння вечавога звону "Пагоні", горкай праўды верша "Народ беларускі, народ...", сімвала надзеі і веры для спаняверанных — санета "Сярод пяскоў егіпецкай зямлі", іншых паэтычных і публіцыстычных твораў.

Асоба Паэта і Грамадзяніна, будучы нацыянальна агульназначнай, нясе ў сабе дадатковы эмацыянальны зарад тым, хто, як і ён, волю лёсу апынуўся за межамі Бацькаўшчыны. Але хто б дзе ні жыў — да Багдановіча трэба дарасці. Напэўна, далёка не ўсе беларусы Ялты і Сімферопаля, якім нібыта наканавана не толькі геаграфічна быць бліжэй да Максіма, адчуваюць і ўсведамляюць значнасць таго, чыя нага ступала па той зямлі, па якой яны ходзяць.

А таму мяне вельмі ўзрадавала і абнадзеіла сустрэча з Валерыем Барташам, беларусам з Севастопаля, які свой чарговы прыезд у Мінск па канкрэтнай патрэбе прымеркаваў да падзеі агульназначнай — удзелу ў працы Усебеларускага з'езда за незалежнасць.

Беларускае таварыства ў Севастопалі афіцыйна існуе з 1997 года. У параўнанні з іншымі, што, нібы грыбы пасля спорнага дажджу, узнікалі на абшарах колішняга Саюза пасля яго распаду, гэтае — маладое. Але ад пачатку нацыянальна зарыентаванае. Галоўную мэту, як засведчана ў статуце, сябры суполкі бачаць ва ўмацаванні дзяржаўнай незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны — Беларусі. Адпаведна распрацоўваецца і праграма канкрэтнай дзейнасці, якая, аднак, пазбаўлена дэкларатыўнага пустазвонства ды вузкалобасці ў разуменні беларускасці. Жывуць і працуюць у добрай згодзе і ладзе з іншымі нацыянальнымі меншасцямі, у тым ліку і тымі, якія паміж сабой не вельмі ладзяць — рускай, украінскай, татарскай.

Сцвярджаць прынцыпы, якія грунтуюцца на асэнсаванні спадчыны і ролі Максіма Багдановіча, няпроста сярод суродзічаў, чыя філасофія фарміравалася ў такім адмыслова здэнацыяналізаваным горадзе, як Севастопаль. Тут у першую чаргу асядалі выпускнікі вайсковых навучальных устаноў разам з сем'ямі, для якіх куды бліжэй за свой гістарычны радавод былі словы з нядаўна такога папулярнага шлягера "Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз..." Але абсалютна душэўна мёртвых людзей няма. Проста да кожнага патрэбны свой "ключык". І, напэўна, самалюбства кожнага марскога афіцэра-беларуса цешыць тое, што ў цэнтры горада, на Марскім бульвары, узвышаецца помнік нашаму земляку, капітан-лейтэнанту Аляксандру Казарскаму, узведзены яшчэ ў 1843 годзе, над якім суполка апякуецца і нават мае намер адрэстаўрыраваць. Але цяпер Валерый Барташ заклапочаны ўвекавечваннем памяці земляка, героя расійскага флоту на ягонай радзіме, у горадзе Дуброўне, куды мяркуецца прывезці і ўстанавіць на пастаменце якар з карабля, на якім Казарскі служыў. Не менш заслужаны чалавек і Аляксандр Кавалеўскі — заснавальнік у Севастопалі інстытута біялогіі паўднёвых мораў. Родам ён таксама з Беларусі, і ягоная скульптурная выява знаходзіцца на тым жа Марскім бульвары.

Дык хто ж такі ён, наш сучаснік Валерый Барташ, — завадатар і арганізатар усіх беларускіх спраў у Севастопалі, кіраўнік беларускай суполкі?

Валерый Міхайлавіч — чалавек у горадзе вядомы. Юрыст па адукацыі, узначальвае севастопальскае адвакацкае аб'яднанне. Беларусь пакінуў з бацькамі малалеткам. У адрозненне ад Максіма Багдановіча, у іх доме беларускай бібліятэкі не было, і бацька, марскі афіцэр, быў увогуле далёкі ад усяго беларускага. Такім чынам, перад намі з'ява ў пэўным сэнсе унікальная.

Цікава, што "шыфраграма", "код продкаў" існавалі ў сэрцы і розуме Валерыя па-беларуску ціха і прытоена да вядомага (яго часцей называюць сумнавядомым) рэферэндуму, вынікі якога не робяць гонару народу. Але менавіта ў тыя не для аднаго Валерыя Міхайлавіча скрушныя дні адбыўся пераварот у свядомасці, грамадзянскі зрух, бо чулая жывая душа ўлавіла своеасаблівы "знак бяды", сігнал, што далей жыць спакойна і ціха нельга, бо пад пагрозай само існаванне народа як этнасу.

З'яднаць суродзічаў было няпроста, але цалкам магчыма. І праводзіць рэальную беларускую дзейнасць таксама. Вяла наперад, дадавала настойлівасці і ўпартасці невідочная прысутнасць Максіма Багдановіча, імя якога сёлета 13 лютага таварыства афіцыйна сабе прысвоіла.

Прыкладна год назад у свой чарговы прыезд у Мінск Валерый Міхайлавіч пазнаёміўся і разгаварыўся з мілай, разумнай і дасведчанай супрацоўніцай музея Ірынай. Выказаў меркаванне, што сябры суполкі вельмі б хацелі мець у сябе карціну з выявай Максіма Багдановіча. Ірына запрасіла яго наведаць майстэрню Алеся Марачкіна, бацькі яе мужа Ігара. Знаёмства з сям'ёй вядомага майстра было для Валерыя надзвычай цікавым і запамінальным. А сёлетняй вясной Ірына паведаміла па тэлефоне такую нечаканую і радасную вестку: карціна намалявана, можна прыязджаць і забіраць.

Пагадзіцеся, такое здараецца нячаста. Гэта, мабыць, зорка Максіма Багдановіча, якая аднолькава ласкава і прасветла азарае жыццё і дзейнасць як Валерыя Барташа і ягоных севастопальскіх пабрацімаў, так і дружную і ў кожнай іпастасі пасвойму таленавітую, усёй сваёй сутнасцю, ад дзядоў да ўнукаў беларускую сям'ю Марачкіных, паяднала і пасябравала гэтых людзей, якія, нягледзячы на адлегласць і ростань, жывуць Беларуссю.

**Яўген ЛЕЦКА.**



*У музеі Максіма Багдановіча падчас уручэння карціны.*

## КІНОШНЫЯ БАЙКІ Дзмітрыя МІХЛЕЕВА

# КІНО І НЕМЦЫ

Сёння непрыстойна сівы ад барады да вушэй Юра Аксанчанка тады быў непрыстойна юным асістэнтам рэжысёра. І вось што ён прыцягнуў у наш "Чудзільнік" на "буксіры памяці".

...Рэжысёр Валянцін Вінаградаў здымаў фільм пра вайну. У "групоўку" яму спатрэбіліся сапраўдныя немцы — гэткія бялявыя шэльмы. Гэтым ён і азадачыў свайго другога рэжысёра Філіна, з якім у яго не заладзіўся з самага пачатку "творчы кантакт" і якога ён вырашыў убраць з карціны.

— Вы зразумелі, таварыш Філіні? Мне патрэбныя высокія, альбіносныя бландзіны з сінімі ледзянымі вачыма. Сапраўдныя немцы. Арыйцы. У колькасці ўзвода. Заўтра, да васьмі трыццаці.

З тым Філін і пайшоў, невыразна мяркуючы, што гэтым справа не скончыцца. На другі дзень ён прывёў два дзесяткі бландзінаў упераменжку з рознымі па камплекцыі шатэнамі, якіх удалося набраць у наваколлі. Рэжысёр агледзеў строй, павярнуўся да "другога".

— Гэта — немцы? — пачаў ён шматабяцаюча.

— Не, па пашпартах яны нашыя. Савецкія. Але для справы і для пачуцця патрыятызму...

— Ідыятызму! — завёўся з паўабарота рэжысёр. — Вон! Убраць! Спыніць! Я што, фільм пра татара-яўрэйскае ярмо здымаю? Каго ты мне прывёў? Дзе ты знайшоў гэтых манголаў?

Філін, сам не мангол і не вельмі семіт, агледзеў з цяжкасцю набраны строй патрэбных "арыйцаў". "Калі тут і быў хтосьці блізкі да "татара-манголаў", дык сам рэжысёр", — падумаў ён і асуджана ўздыхнуў.

На другі дзень ён прывёў узвод рослых арыйцаў без усялякіх падазроных шатэнаў, прычапіцца да якіх, здавалася, ужо не было ніякай прычыны. Аднак рэжысёр думаў інакш.

— І гэта немцы? — накінуўся ён з ходу на "другога". — Дзе арыйская пагарда да ўсіх і ўся ў іх фігурах і постацях? Дзе ледзяны бляск у вачах? Дзе "Дойчланд, Дойчланд, убер алес?" Каго вы мне прывялі? Якіх лапароў? Гэта "арыі"?

На трэці дзень Філін прывёў самы звычайны ўзвод "групоўкі".



ВІНШУЕМ!

# СВОЙ ГОЛАС Віктара КАЗЬКО

Наша Бацькаўшчына, наш родны калінкавіцкі край, вельмі багаты на таленавітых людзей, якія славяць яго словам матчыным, словам беларускім. І сярод такіх людзей пачэснае месца займае ўраджэнец Калінкавіччаў, пісьменнік Віктар Казько, якому нядаўна споўнілася 60 гадоў.

Цяжкім, калі не пакутным, можна назваць дзяцінства будучага празаіка. Калі хлапчуку не было і трох гадоў, у бацькоўскую хату ўдарыў нямецкі снарад. Асколкамі адразу забіла маці, а двухгадовая сястрычка памерла ад холаду і голаду. Хлапчук застаўся адзін і разам з натоўпам людзей, якіх немцы гналі ў Азарыцкі канцэнтрацыйны лагер, апынуўся там. Хлопчык выжыў. І калі нашы войскі вызвалілі вязняў ад немінучай гібелі, яго забрала да сябе бабуля. А потым пайшлі дзіцячыя прыёмнікі-размеркавальнікі і дзіцячы дом.

У шаснаццацігадовым узросце Віктар Казько наогул пакінуў Беларусь. Жыў на Украіне, затым у Сібіры, дзе скончыў Кемераўскі горны тэхнікум і пачаў працаваць на шахтах Кузбаса. Аднак яго прыцягвалі далі нязведаныя, і Віктар Казько ўладкаваўся ў геолагаразведвальную экспедыцыю. У той час ён спрабуе сябе ў журналістыцы і літаратуры. У 1962 годзе — загадчык аддзела прамысловасці газеты "Красная Шория" (Кемераўская вобласць), адкуль пераходзіць на працу літсупрацоўнікам абласной газеты "Комсомолец Кузбасса", а затым карэспандэнтам абласнога радыё.

Першыя яго творы з'явіліся яшчэ ў Расіі на рускай мове. У 1970 годзе Віктар Казько заканчвае Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. І ўсё ж туга па Радзіме, па роднай матчынай мове робіць круты паварот у лёсе пісьменніка: праз 17 гадоў ён вяртаецца на Беларусь. Працуе ў многіх перыядычных выданнях, у тым ліку і ў газеце "Чырвоная змена", якая ўзбагаціла яго каларытам роднай мовы.

На працягу 1986—1988 гадоў Віктар Казько — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, працуе на кінастудыі "Беларусьфільм". Творы Віктара Казько ў асноўным аўтабіяграфічна-дакументальнага характару, адрозніваюцца асаблівай глыбінёй псіхалагічнага аналізу, высокім драматычным гучаннем. Яны не заўсёды лёгка чытаюцца, але знайшлі свайго чытача і атрымалі прызнанне самых прыдзірлівых крытыкаў, якія адзначаюць неардынарнасць, яркую таленавітасць, інтэлектуальнасць аўтара.

Пяру пісьменніка належаць раманы "Неруш", "Хроніка дзетдомаўскага саду", аповесці "Цёмны лес — тайга густая", "Цвіце на Палессі груша", "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", "Судны дзень", "Но пасаран", "Да сустрэчы" і іншыя.

У апошнія гады пісьменнік многа піша публіцыстычных твораў на чарнобыльскую тэму, якая хвалюе яго больш за ўсё: тут і боль за родны край палескі, за лёс яго людзей, за іх будучыню. Многія творы ўвасоблены ў кіно. У 1977 годзе Віктар Казько за кнігу "Добры дзень і бывай" удастоены прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, а ў 1982 годзе — Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа за аповесць "Суд у Слабадзе". За шматгранную літаратурную дзейнасць і вялікую грамадскую работу Віктар Казько ўзнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны". Пажадаем жа яму і надалей вялікіх творчых удач.

**Віктар ЯГОРЧАНКА.**

ВЯРТАННЕ СПАДЧЫНЫ

# Уладзіслаў ГАЛУБОК

ДРАМАТУРГ, ПРАЗАІК, РЭЖЫСЁР, АКЦЁР, МАСТАК.
НАРАДЗІЎСЯ 3(15) ТРАЎНЯ 1882 ГОДА.
ПЕРШЫ НАРОДНЫ АРТЫСТ БЕЛАРУСІ (1928).
АРЫШТАВАНЫ 21 ЧЭРВЕНЯ 1937 ГОДА.
22 ВЕРАСНЯ 1937 АСУДЖАНЫ ДА ВЫШЭЙШАЙ МЕРЫ ПАКАРАННЯ.
ЗАГІНУЎ У ТУРМЕ.
ЖОНКА УЛАДЗІСЛАВА ГАЛУБКА ПАСЛЯ АРЫШТУ МУЖА СКОНЧЫЛА ЖЫЦЦЁ САМАГУБСТВАМ.



*Уладзіслаў ГАЛУБОК.*

***"Обзорная справка по архивному делу № 1672 на Голубка Владислава Иосифовича.***

***Дело возникло в конце 1920 г. в связи с тем, что в ЧК Белоруссии поступили сведения, что Голубок является членом (партыі. — Л. М.) белорусских социал-революционеров. 15 февраля 1921 г. на основании ордера ЧК Белоруссии Голубок был арестован.***

***18 февраля 1921 дело по обвинению Голубка было прекращено в связи с тем, что он из партии БСР вышел, о чем было объявлено в газете "Советская Белоруссия" (...), а других материалов против него не имелось.***

***После этого в ГПУ Белоруссии поступило несколько сведений о том, что Голубок, работая в театре, допускает высказывания националистического толка. В сентябре 1924 г. поступили сведения, что Голубок являлся в прошлом членом "Белорусской рады". Из копии протокола допроса Голубка от 12 декабря 1924 г. видно, что он в 1920 г., при поляках, примкнул к белым эсерам, пробыл там около 2-х месяцев, а затем, как только пришли большевики, он выбыл из этой партии, о чем объявил в газете "Сов. Белор.". Выписка из этой газетной статьи в деле имеется.***

***Из непроверенных сообщений за 1920—1922 гг. видно, что Голубок агитирует против Советской власти...***

***Ст. следователь Горшков".***



*Жонка У. Галубка Ядвіга Аляксандраўна ў ролі вясковай кабеты.*



*Старэйшы сын Эдуард.*

**Леанід МАРАКОЎ.**

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# ДОБРЫ ЯБЛЫЧАК ДА СПАСА

Спасаўскія святы ў беларускім народным календары складаюцца з трох частак.

Першы Спас (14 жніўня) называецца Мядовым. Лічылася: з гэтага часу пчолы перастаюць назапашваць мёд і надыходзіць восень. "Ад першага Спаса халодная раса". Асноўным рытуальным печывам гэтага дня былі стравы з макам, перш за ўсё варэнікі і пірагі: мак быццам бы забяспечваў здароўе і захоўваў ад уздзеяння благога вока. З гэтага дня пачыналася Спасаўка — двухтыднёвы летне-асенні пост, які доўжыўся да 28 жніўня.

Аднак галоўным лічыўся другі Спас (19 жніўня), які звычайна называюць Яблычным. Справа ў тым, што ў гэты дзень царква асвячала садавіну, якую да гэтага часу строга забаранялася есці — яблыкі, грушы і іншае. Асаблівa падобныя вераванні тычыліся жанчын. На другі Спас абавязкова пяклі пірагі з яблыкамі або мёдам, смажылі яблыкі ў печы, варылі яблычныя кампоты і кісялі, рабілі мядовы квас.

Трэці Спас (29 жніўня) практычна стаў святам заканчэння жніва. Паўсюмесна асвячалі зерне і рыхтавалі глебу для пасеву азімых культур.

На працягу Спасаўкі павінна была адбыцца "рабінавая ноч", якая вызначалася моцнай навальніцаю з грымотамі і дажджом. Шматлікія народныя календары тлумачаць, што ў гэту ноч з'ядноўваюцца сілы прыроды, каб даць адпор "нячыстай сіле", і што такая ноч патрэбна, каб выспелі ягады рабіны.

Заканчвалася жніво, заканчвалася лета, на парозе была восень. Народныя філосафы падсумоўвалі: "Прыйшоў Іспас — пайшло лета ад нас" і раілі: "На трэцім Спасе трымай рукавіцы ў запасе".

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



Добры ўраджай яблык урадзіў сёлета на Гомельшчыне. У Мазырскім раёне ўборку садавіны пачалі ўжо ў канцы ліпеня з дапамогай часова беспрацоўных. У калгасе імя Калініна за першы тыдзень сабралі больш за 20 тон яблык (на здымку), якія затым накіроўваюцца на перапрацоўку.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

# «ЖУРАВІНКА»

Аж дзівавaліся людзі, як жаніўся наш Рыгор: сам вялізарны, сутулаваты, як крук, — а маладзіцу браў — быццам журавінку. Пабраліся; вясельле згулялі, як след, — ну, і жылі сперша нішто.

Толькі ў скорасці наш доўгі Рыгор са сваім сутулам стаў неяк цянець і гнуцца на перад, — з крука зрабіўся, як вуда, і с твары пачаў чарнець, а жонка — "Журавінка" — круглець... Бачыць яна, што мужык хірлее і слабее, дай і сама хвост аткінуць: — крэктаць стала і жаліцца на нейкую хваробу. Па сабе Рыгор не бедаваў, але за жонку — спалохаўся, так ўжо моцна ўхляпаўся ў яе. Кінуўся туды-сюды: курцу, пеўнем што пяе, даставў; пашаптух і блізкіх, і далёкіх пасьцягваў; уселякіе зельле гатавалі, палілі і курылі; качалкі праз вакно кідалі — і часто ні рабілі — не памагала. Журавінка — журавінкай: як на балоце ўзросшы, разбухала, але патравы німа.

Ажно надарыўся нейкі стары знахар; Рыгор бух яму у ногі: так і так, кажэ, — ратуй маю "журавінку", — апошні хвост прадам!

Знахар палядзеў, памацаў хворую, галавой паківаў: кепска, — кажэ, — "марматун" ёй; рада адна: лёду насушыць, ветру наскрабаць, камарынага сала назбіраць і спарыць у бярэсьцяным гаршку, потым мазаць перад агнём грудзі і паясніцу хворай; хваробу пэўне як гужам адойме, а здароўе — як мехам прыпрэ".

Зажурыўся Рыгор, бо не патрапіў гэткую прыправу зрабіць; аж тут жонка і кажэ: "не маркоцься, мой ты аздабулечка, сама я лепш ведаю што мне трэба: пяску з мора прыцягні, як рукой усё зніме".

Паскрабаў мужык за вухам, паскрабаў патыліцу, але папёр такі с торбай да мора. Цягнуўся небарака да поўдня, знібыткаваўся, прысеў адпачыць крыху, стаў смактаць люльку, — ажно тут надыходзіць даўнейшы яго сусед — Язэп, што пайшоў летась у прымы ў другую вёску. Суседзі разгутарыліся, — Язэп і кажэ: "паслухай ты мяне, Рыгорка, — варочайся да хаты, і я з табой пайду і дам рады тваёй бабі". Пайшлі.

Позна вечэрам прывалакліся пад хату. Бачаць — агонь у хаці блішчыць. Рыгор і зірк у вакно, — ды аж выпрастаўся, як слуп: на стале яешня са скваркамі, бліны, верэшчака, як вір, і брыкалаўка ў пляшцы, а побач яго "Журавінкі" сядзіць хлапец — Янка Канцавы...

Скрыгатнуў Рыгор зубамі, зацiснуў кулакі, а тут Язэп і шэпча: "маўчы, ды лезь у мех, а я пайду прасіцца на ноч".

Ледзь упхнуў Язэп свайго таварыша ў мех, завязаў, успёр на плечы і пасунуўся ў хату прасіцца, каб пусьцілі пераначэваць.

Спярша гулякі ані блізка, — але нешта пашэптаўшыся — згодзіліся. Язэп убіўся ў кут і пачаў мех развязываць, тым часам тые за сталом пьюць і ядуць, а "Журавінка" ешчэ і завела: "Нема майго Рыгора, пайшоў шукаць пяску да мора", ды Янка, падхапіўшыся ў бокі, падцінае: "тунда, тунда, тундада!" А Язэп с кута і кажэ: "ня вытрываю — запею і я: "А мой жэ ты Рыгору, вылазь з меха на волю, вісіць бізун на сьцяне, дай ты Янку і жане: Янку раз, жонцы — два, — тунда, тунда, тундада!!..."

...Мусіць хочаце ведаць, што было далей? — Вось, не скажу! Хіба толькі тое, што наша "вуда" цяпер прасьцей ходзіць, а гладкая скурачка "Журавінкі" пачала моршчыцца..."

**В. ГАЛУБОК.**

"Наша ніва" № 30. 1909 г.

**P.S.** *Захаваны правапіс арыгінала.*

СУПРАЦОЎНІЦТВА




● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Пасля аб'явы расійскай карпарацыяй "Падмоскоўе" конкурсу праектаў на будаўніцтва малапавярховага пасёлка ў Хімках паступіла шмат прапаноў не толькі ад расійскіх, але і ад заходніх фірм. Тым не менш, распрацоўка інстытута "Гомельпраект" прайшла па-за канкурэнцыяй, яна была выйгрышнай і па ідэйнаму ўвасабленню, і па цэнавых параметрах. Забудову пасёлка Навагорск вялі гомельскія прадпрыемствы ДБК і "Гомельпрамбуд". На базе Навагорска расіяне правялі семінар, адзначыўшы стварэнне такога пасёлка для жыхароў сярэдняга дастатку як падзею года. 110 дамоў маюць там неабходныя камунікацыі, газоны, разгорнутую інфраструктуру ў выглядзе аўтамагістралей, стаянак, гандлёвых цэнтраў...

"Гомельпраект" — першы ўладальнік на Гомельшчыне міжнароднага сертыфіката якасці, які дазваляе працаваць у Еўропе, а на рэспубліканскім фестывалі архітэктуры ў Брэсце ў мінулым годзе стаў пераможцам у дзвюх намінацыях.

НА ЗДЫМКУ: галоўныя архітэктары праектаў Сяргей КАВЫРОЎ, Рыгор ЦІХАЎ Вольга ЦІХАВА, Людміла ВЕРХАЛАТ, Соф'я МАРЫНАВА.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# СВЯТА Янкі КУПАЛЫ Ў АРГЕНЦІНЕ

Нядаўна супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы атрымалі ліст з пасольства Рэспублікі Беларусь у Аргенцінскай Рэспубліцы. У ім паведамлялася, што 29 ліпеня 2000 года пад эгідай FICSA (Федэрацыя аб'яднанняў былых савецкіх грамадзян у Аргенцінскай Рэспубліцы) праведзена вялікае свята — фестываль, прысвечаны 118-й гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы.

У свяце прынялі ўдзел усе клубы, якія з'яўляюцца членамі гэтай арганізацыі (іх каля дзесятка).

Афіцыйнае запрашэнне на фестываль атрымала і пасольства Рэспублікі Беларусь.

Ліст з такім зместам крануў і расчуліў нас, супрацоўнікаў музея Янкі Купалы: у далёкай Аргенціне людзі памятаюць пра нашу Беларусь, пра свайго Янку Купалу...

Такі факт навёў і на глыбокі роздум аб тым, якую ж незвычайную сілу і ўладу над намі мае сваё, роднае. Яно, напэўна, нараджаецца з намі і для нас назаўсёды. І дзе б чалавек ні быў, ён усведамляе сапраўдны кошт сціплай непаўторнасці роднай беларускай прыроды, роднага слова, нашай багатай спадчыны і нават сённяшняга нашага далёка не салодкага жыцця, і першай кветкі, і апошняга пажоўклага лістка... Якую ж уладу мае над намі Радзіма і ўсё, што ўваходзіць у нас з першым дыханнем!

Мы ўдзячныя нашым суродзічам, што яны не забылі, не згубілі гэтых сэрцу мілых з'яў і вобразаў, што адчуваюць сёння ў далёкай Аргенціне неабходнасць сувязі з родным краем, з Купалавым словам, з духам беларускасці.

Зразумела, супрацоўнікі музея Янкі Купалы адгукнуліся ўдзячным прывітальным словам да прыхільнікаў паэзіі вялікага Купалы. Спадзяемся, роднае беларускае слова будзе вялікай пяшчотай і матчынай ласкай для нашых землякоў у Аргенціне!

Наладжанае свята дало вялікую радасць і прасвятленне душам беларусаў, якія далёка ад сваёй Бацькаўшчыны сёння!

Няхай заўсёды і паўсюль магутным абярогам землякам нашым будзе Купала, Беларусь і простая малітва:

Не пакідай, Высокі Божа,
Без лампады наш алтар,
Без гімна — Купалава
падножжа,
Душу — без веры
і без мар.

**Алена БУРБОЎСКАЯ,**
**вучоны сакратар**
**Літаратурнага музея**
**Янкі Купалы.**

ВЕСТКІ З СУПОЛАК

# СВЯТЛО МАКСІМАВАЙ ЗОРКІ

Размова пра зорку Максіма Багдановіча, якая з часам уздымаецца ўсё вышэй і вышэй ды зырчыць усё ярчэй і прывабней, прасвятляючы душы сучаснікаў дабром, ратуючы ад спаняверанасці. Ён, наша абвостранае сумленне, жывучы ўдалечыні ад Беларусі, палюбіў сваю высненую "краіну-браначку" самай светлай і шчырай любоўю, што, аднак, не замінала яму глядзець праўдзе ў вочы і рэальна ацэньваць духоўны стан народа, быць пры гэтым бескампрамісным, нават жорсткім там, дзе праяўлялася самагалбаванне.

Мы яшчэ як след тэарэтычна не асэнсавалі філасофіі нацыянальнага выжывання, падмурка, закладзенага жыццём і творчасцю Максіма Багдановіча. Але практычна, у рэальным жыцці жывём паводле Багдановіча. Бо не ўяўляецца духоўна паўнацэнны беларус, які б не адчуў на сабе ўздзеяння вечавога звону "Пагоні", горкай праўды верша "Народ беларускі, народ...", сімвала надзеі і веры для спаняверaных — санета "Сярод пяскоў егіпецкай зямлі", іншых паэтычных і публіцыстычных твораў.

Асоба Паэта і Грамадзяніна, будучы нацыянальна агульназначнай, нясе ў сабе дадатковы эмацыянальны зарад тым, хто, як і ён, волю лёсу апынуўся за межамі Бацькаўшчыны. Але хто б дзе ні жыў — да Багдановіча трэба дарасці. Напэўна, далёка не ўсе беларусы Ялты і Сімферопаля, якім нібыта наканавана не толькі геаграфічна быць бліжэй да Максіма, адчуваюць і ўсведамляюць значнасць таго, чыя нага ступала па той зямлі, па якой яны ходзяць.

А таму мяне вельмі ўзрадавала і абнадзеіла сустрэча з Валерыем Барташам, беларусам з Севастопаля, які свой чарговы прыезд у Мінск па канкрэтнай патрэбе прымеркаваў да падзеі агульназначнай — удзелу ў працы Усебеларускага з'езда за незалежнасць.

Беларускае таварыства ў Севастопалі афіцыйна існуе з 1997 года. У параўнанні з іншымі, што, нібы грыбы пасля спорнага дажджу, узнікалі на абшарах колішняга Саюза пасля яго распаду, гэтае — маладое. Але ад пачатку нацыянальна зарыентаванае. Галоўную мэту, як засведчана ў статуце, сябры суполкі бачаць ва ўмацаванні дзяржаўнай незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны — Беларусі. Адпаведна распрацоўваецца і праграма канкрэтнай дзейнасці, якая, аднак, пазбаўлена дэкларатыўнага пустазвонства ды вузкалобасці ў разуменні беларускасці. Жывуць і працуюць у добрай згодзе і ладзе з іншымі нацыянальнымі меншасцямі, у тым ліку і тымі, якія паміж сабой не вельмі ладзяць — рускай, украінскай, татарскай.

Сцвярджаць прынцыпы, якія грунтуюцца на асэнсаванні спадчыны і ролі Максіма Багдановіча, няпроста сярод суродзічаў, чыя філасофія фарміравалася ў такім адмыслова здэнацыяналізаваным горадзе, як Севастопаль. Тут у першую чаргу асядалі выпускнікі вайсковых навучальных установаў разам з сем'ямі, для якіх куды бліжэй за свой гістарычны радавод былі словы з нядаўна такога папулярнага шлягера "Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз..." Але абсалютна душэўна мёртвых людзей няма. Проста да кожнага патрэбны свой "ключык". І, напэўна, самалюбства кожнага марскога афіцэра-беларуса цешыць тое, што ў цэнтры горада, на Марскім бульвары, узвышаецца помнік нашаму земляку, капітан-лейтэнанту Аляксандру Казарскаму, узведзены яшчэ ў 1843 годзе, над якім суполка апякуецца і нават мае намер адрэстаўрыраваць. Але цяпер Валерый Барташ заклапочаны ўвекавечваннем памяці земляка, героя расійскага флоту на ягонай радзіме, у горадзе Дуброўне, куды мяркуецца прывезці і ўстанавіць на пастаменце якар з карабля, на якім Казарскі служыў. Не менш заслужаны чалавек і Аляксандр Кавалеўскі — заснавальнік у Севастопалі інстытута біялогіі паўднёвых мораў. Родам ён таксама з Беларусі, і ягоная скульптурная выява знаходзіцца на тым жа Марскім бульвары.

Дык хто ж такі ён, наш сучаснік Валерый Барташ, — завадатар і арганізатар усіх беларускіх спраў у Севастопалі, кіраўнік беларускай суполкі?

Валерый Міхайлавіч — чалавек у горадзе вядомы. Юрыст па адукацыі, узначальвае севастопальскае адвакацкае аб'яднанне. Беларусь пакінуў з бацькамі малалеткам. У адрозненне ад Максіма Багдановіча, у іх доме беларускай бібліятэкі не было, і бацька, марскі афіцэр, быў увогуле далёкі ад усяго беларускага. Такім чынам, перад намі з'ява ў пэўным сэнсе унікальная.

Цікава, што "шыфраграма", "код продкаў" існавалі ў сэрцы і розуме Валерыя па-беларуску ціха і прытоена да вядомага (яго часцей называюць сумнавядомым) рэферэндуму, вынікі якога не робяць гонару народу. Але менавіта ў тыя не для аднаго Валерыя Міхайлавіча скрушныя дні адбыўся пераварот у свядомасці, грамадзянскі зрух, бо чулая жывая душа ўлавіла своеасаблівы "знак бяды", сігнал, што далей жыць спакойна і ціха нельга, бо пад пагрозай само існаванне народа як этнасу.

З'яднаць суродзічаў было няпроста, але цалкам магчыма. І праводзіць рэальную беларускую дзейнасць таксама. Вяла наперад, дадавала настойлівасці і ўпартасці невідочная прысутнасць Максіма Багдановіча, імя якога сёлета 13 лютага таварыства афіцыйна сабе прысвоіла.

Прыкладна год назад у свой чарговы прыезд у Мінск Валерый Міхайлавіч пазнаёміўся і разгаварыўся з мілай, разумнай і дасведчанай супрацоўніцай музея Ірынай. Выказаў меркаванне, што сябры суполкі вельмі б хацелі мець у сябе карціну з выявай Максіма Багдановіча. Ірына запрасіла яго наведаць майстэрню Алеся Марачкіна, бацькі яе мужа Ігара. Знаёмства з сям'ёй вядомага майстра было для Валерыя надзвычай цікавым і запамінальным. А сёлетняй вясной Ірына паведаміла па тэлефоне такую нечаканую і радасную вестку: карціна намалявана, можна прыязджаць і забіраць.

Пагадзіцеся, такое здараецца нячаста. Гэта, мабыць, зорка Максіма Багдановіча, якая аднолькава ласкава і прасветла азарае жыццё і дзейнасць як Валерыя Барташа і ягоных севастопальскіх пабрацімаў, так і дружную і ў кожнай іпастасі пасвойму таленавітую, усёй сваёй сутнасцю, ад дзядоў да ўнукаў беларускую сям'ю Марачкіных, паяднала і пасябравала гэтых людзей, якія, нягледзячы на адлегласць і ростань, жывуць Беларуссю.

**Яўген ЛЕЦКА.**



*У музеі Максіма Багдановіча падчас уручэння карціны.*

КІНОШНЫЯ БАЙКІ Дзмітрыя МІХЛЕЕВА

# КІНО І НЕМЦЫ

Сёння непрыстойна сівы ад барады да вушэй Юра Аксанчанка тады быў непрыстойна юным асістэнтам рэжысёра. І вось што ён прыцягнуў у наш "Чудзільнік" на "буксіры памяці".

...Рэжысёр Валянцін Вінаградаў здымаў фільм пра вайну. У "групоўку" яму спатрэбіліся сапраўдныя немцы — гэткія бялявыя шэльмы. Гэтым ён і азадачыў свайго другога рэжысёра Філіна, з якім у яго не заладзіўся з самага пачатку "творчы кантакт" і якога ён вырашыў убраць з карціны.

— Вы зразумелі, таварыш Філіні? Мне патрэбныя высокія, альбіносныя бландзіны з сінімі ледзянымі вачыма. Сапраўдныя немцы. Арыйцы. У колькасці ўзвода. Заўтра, да васьмі трыццаці.

З тым Філін і пайшоў, невыразна мяркуючы, што гэтым справа не скончыцца. На другі дзень ён прывёў два дзесяткі бландзінаў уперамежку з рознымі па камплекцыі шатэнамі, якіх удалося набраць у наваколлі. Рэжысёр агледзеў строй, павярнуўся да "другога".

— Гэта — немцы? — пачаў ён шматабяцаюча.

— Не, па пашпартах яны нашыя. Савецкія. Але для справы і для пачуцця патрыятызму...

— Ідыятызму! — завёўся з паўабарота рэжысёр. — Вон! Убраць! Спыніць! Я што, фільм пра татара-яўрэйскае ярмо здымаю? Каго ты мне прывёў? Дзе ты знайшоў гэтых манголаў?

Філін, сам не мангол і не вельмі семіт, агледзеў з цяжкасцю набраны строй патрэбных "арыйцаў". "Калі тут і быў хтосьці блізкі да "татара-манголаў", дык сам рэжысёр", — падумаў ён і асуджана ўздыхнуў.

На другі дзень ён прывёў узвод рослых арыйцаў без усялякіх падазроных шатэнаў, прычапіцца да якіх, здавалася, ужо не было ніякай прычыны. Аднак рэжысёр думаў інакш.

— І гэта немцы? — накінуўся ён з ходу на "другога". — Дзе арыйская пагарда да ўсіх і ўся ў іх фігурах і постацях? Дзе ледзяны бляск у вачах? Дзе "Дойчланд, Дойчланд, убер алес?" Каго вы мне прывялі? Якіх лапароў? Гэта "арыі"?

На трэці дзень Філін прывёў самы звычайны ўзвод "групоўкі".



## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

*Гэты мозг ніколі не ведае спачыну. Між тым яму неўласцівае фантазёрства, хаця плённыя ідэі, што з'яўляюцца прадуктам ягонай працы, іншы раз здаюцца фантастыкай з-за таго толькі, што сённяшняя сучаснасць пакуль не валодае тэхналогіямі іх ажыццяўлення. А не таму, што яны хімерычныя, пустыя, накшталт ідэі вечнага рухавіка. У іх заўсёды, раней ці пазней, праглядаецца рацыянальнае зерне рэальнай задумы, якая вынікае з глыбокай навуковай эрудыцыі і футуралагічнай дальнабачнасці.*

*Рабоце гэтага мозга чалавецтва абавязана стварэннем тэорыі хвалевага пераносу масы — адкрыццём у галіне механікі, якое карэнным чынам змяніла ранейшыя ўяўленні, па якіх перанос масы пры хвалепадобным руху быццам не адбываўся. Новая тэорыя аказалася не "вузкаведамаснага" характару. Яна выклікала моцны рэзананс, скажам, у геафізіцы, іншых галінах навукі, дала нетрадыцыйнае тлумачэнне механізмаў узнікнення землятрусаў, буйнамаштабных акіянскіх плыняў пад узаемаўздзеяннем гравітацыйных сіл паміж Зямлёй і Месяцам, механізмаў так званай суперратацыі зямной атмасферы і атмасфер іншых планет Сонечнай сістэмы.*

*Але вернемся з нябёсаў на зямлю. І тут новая парадыгма сталася тэарэтычным падмуркам вынаходства незвычайнага тыпу транспартна-цягавых канструкцый, у тым ліку сельскагаспадарчых, што працуюць на прынцыпах біямеханікі і абыходзяцца без вядучых колаў.*

*Усё сказанае тычыцца нашага земляка-мінчаніна Анатоля ДАБРАЛЮБАВА.*

*Нават кароткі пералік ягоных тытулаў дазваляе вызначыць яго як "цяжкавагавіка" ў навуцы: загадчык лабараторыі мадэліравання электрамеханічных сістэм Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Нацыянальнай акадэміі навук, доктар тэхнічных навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, прафесар.*

*Кола навуковых інтарэсаў Анатоля Дабралюбава, і без таго досыць шырокае, не вычэрпваецца, аднак, гамай пералічаных ужо дысцыплін. Пяць гадоў таму на адным з пастаянна дзеючых у рамках МАІТ семінараў акадэмік Дабралюбаў дакладваў калегам пра свой (разам з супрацоўнікамі падначаленай яму лабараторыі)вопыт складання аднамоўнага інварыянтнага слоўніка новага тыпу. Ягоная навізна ў тым, што ён не проста дае тлумачэнне слоў іншамоўнаму чытачу, але і паказвае ўзоры іх граматычных парадыгмаў пры складанні сказаў са спасылкамі на літаратурныя прыклады.*

*Нядаўна выйшла другое выданне слоўніка. Сёння намаганні лабараторыі (разам, вядома, з іншымі задачамі) накіраваны на стварэнне такога ж інварыянтнага беларускага слоўніка.*

*Уварванне ў лінгвістыку не адзіная спроба прарыву прафесара на "чужую" тэрыторыю. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць не вельмі даўно выдадзеная ім кніга "Дзяржаўная ўлада як тэхнічная сістэма", што выклікала павышаную цікавасць як спецыялістаў, так і аматараў гісторыі, эканомікі, паліталогіі, дзяржавазнаўства. Яна параўнальна хутка разышлася з кнігагандлёвых прылаўкаў. І не дзіўна. Экстраардынарны загаловак не мог не прыцягнуць увагу. Тым больш, што і змест працы не падмануў чаканняў чытача.*

*Сапраўды, палітычную ўладу можна разглядаць пад рознымі ракурсамі: гістарычным, эканамічным, сацыяльным, псіхалагічным, філасофскім... Але скрозь прызму тэхнакрытыкі?!*

*Раней для гэтага існаваў гатовы ярлык: механістычны погляд. Што было рызыкоўна для далейшай навуковай кар'еры, а ў часы культу асобы небяспечна і для самога жыцця мечанага адмысловай пячаткай аўтара.*

*...Вось такі гэты доктар навук. Падкрэсліваю: тэхнічных навук. Найцікавейшы суразмоўца.*

*Ён пастаянна ў роздуме, яго турбуе не адно сённяшні дзень з ўсімі яго складанасцямі, а і тое, як усё гэта накладваецца на нашае заўтра. І сведчанне таму — прапануемыя разважанні.*

**Раальд ЛЕВІН,**
**член МАІТ.**

# КАЛІ ХОЧАМ ЗАХАВАЦЦА...

## РОЗДУМ НАВУКОЎЦА ПРА ЛЁС ЧАЛАВЕЦТВА

**ПАСТАНОЎКА ЗАДАЧЫ.** Навука і тэхніка ператварылі жыццё чалавека да непазнавальнасці. Яны зрабілі яго больш камфортным і цывілізаваным, стварылі фантастычна эфектыўныя прылады вытворчасці і тэхналогіі, палягчыўшы працу; забяспечылі чалавека ежай, вопраткай, жыллём. Але ёсць і другі бок навукова-тэхнічнага прагрэсу: небывала магутныя ваенныя сродкі, здольныя лёгка знішчыць мільёны людзей. Не дзіва, што характар войнаў як спосабу вырашэння канфліктаў таксама ў корані змяніўся. Ваенная спрэчка раней вырашалася адно ўзброенымі сіламі на полі бою, тым самым зыход вайны ўжо і вызначаўся. Цяпер жа арэнай войнаў і разбурэнняў становяцца любы горад або вёска, любая тэрыторыя, размешчаная ў любым пункце Зямлі, што пацвярджаюць ваенныя дзеянні на Балканах і на Паўночным Каўказе.

Войны робяцца ўсё больш буйнамаштабнымі, сусветнымі. Другая сусветная, напрыклад, утрая перасягнула першую, якая да таго пабіла ўсе рэкорды па колькасці ахвяр і разбурэнняў.

Што далей?.. Няўжо працягнецца вусцішнае чаргаванне: чым далей, тым больш знішчальных сусветных бойняў і "перыядаў мірнага будаўніцтва"? Адказ павінны даць не палітыкі і ваенныя, а хутчэй навукоўцы, бо менавіта яны сталіся першапрычынай згаданых змяненняў у жыцці людзей і планеты ў цэлым. Так-так, навукоўцы і канструктары, якія стварылі сённяшні добраўпарадкаваны, але небяспечны свет. Таму ім і належыць распрацаваць цывілізаваныя правілы людскага існавання. Калі чалавецтва не засвоіць гэтага і будзе жыць па ранейшых лякалах, а галоўнае — калі не спыніць міждзяржаўныя і глабальныя бойкі, жыццё на нашым "шарыку" будзе зруйнаванае, а беды і пакуты людзей перавысяць усё, раней вядомае.

Навуковыя ісціны не змяняюцца пры перасячэнні дзяржаўных межаў. Вось чаму навуку і трэба заклікаць да вырашэння пытанняў вайны, міру і ўлады. Бо сапраўдная навука падыходзіць да ўсіх цяжкіх праблем аналітычна, фундаментальна і аб'ектыўна высвятляе надзённую сітуацыю, фармулюе пастаноўку задачы з улікам глыбінных каранёў канфліктаў, дае рэкамендацыі для іх утаймавання.

Такі навуковы метад пошуку прадухілення міждзяржаўных войнаў і выжывання цывілізацыі навука прымае як адзіна правільны.

**КАРОТКІ НАВУКОВЫ АНАЛІЗ "ФІЗІЧНЫХ" ПРЫЧЫН ВОЙНАЎ.** Інстынкт агрэсіўнасці і саперніцтва ўласцівы чалавеку, любой жывой істоце.

І ў чалавеку, і ў жывёле ён для кожнага з нас своеасаблівы і накіраваны на выжыванне і аздараўленне індывідуума як біялагічнай істоты. У сваім індывідуальным праяўленні гэты інстынкт бяспечны з пункту гледжання захавання жыцця на Зямлі, ён закладзены прыродай ва ўсё жывое.

Аднак індывідуальны ў сваёй аснове, інстынкт агрэсіі і саперніцтва зрабіўся небяспечным для наваколля, калі набыў рысы калектыўных дзеянняў. Тут ён адразу ж страціў закладзеную прыродай галоўную станоўчую якасць, накіраваную на выжыванне асобін. Чалавек зразумеў, што ў барацьбе за існаванне не толькі двое мацнейшыя за аднаго або дзесяць мацнейшыя за двух (гэта інстынктыўна разумеюць і жывёлы), а і што тысяча мацнейшая за сотню, а мільён — за тысячу і г. д. І навучыўся **арганізоўваць** гэтыя тысячы і мільёны для барацьбы адзін з адным. Перамагаць пачалі не наймацнейшыя індывідуумы, а больш шматлікія або лепей арганізаваныя і ўзброеныя.

Навукова-тэхнічны прагрэс унёс яшчэ большыя змяненні ў адвечную барацьбу людзей, зрабіўшы яе яшчэ больш ненатуральнай, смяротнай і пагібельнай як для адзінак, так і для ўсяго роду чалавечага, больш таго — для ўсяго астатняга ("неразумнага") зямнога жыцця.

Цяпер канфліктуюць не асобы, а згуртаваныя шматмільённыя супольнасці-дзяржавы, г. зн., узброеныя безаблічныя монстры, якія абслугоўваюцца людзьмі.

Сёння ў свеце звыш 150 незалежных дзяржаў. Большасць іх пастаянна заклапочаная паляпшэннем, мадэрнізацыяй сваіх збройных арсеналаў і імкнецца, па магчымасці, кагосьці далучыць, стаўшыся, такім чынам, буйнейшымі, баяздольнейшымі або дасягнуць таго ж, аб'яднаўшыся ў саюзы. Такія дзяржавы робяцца ўсё мацнейшымі, магутнейшымі. Іх узбраенне ўдасканальваецца з кожным днём, дасягаючы фантастычнай разбуральнай сілы.

З пазіцыі навукі самае пагібельнае тут — ледзь не поўная свабода і незалежнасць дзеянняў монстраўдзяржаў, тая незалежнасць, да якой яны заўсёды імкнуцца як да самага вялікага шчасця. "Свабода і незалежнасць" — гэтыя словы ў якасці галоўных напісаны на сцягах і ў канстытуцыях усіх без выключэння краін. Але аб'ектыўныя факты сведчаць, што свабода і незалежнасць гэтым краінам патрэбныя найперш як умова бесперашкоднага ўмацавання сваёй моцы ("абараназдольнасці").

Цяперашнюю сітуацыю на планеце смела можна назваць крытычнай. Навуковы аналіз паказвае, што калі сёння была б пушчана ў ход уся назапашаная сучасная зброя, дык жыццё на зямлі было б незваротна зруйнавана і скалечана. Прытым сітуацыя будзе пастаянна і няўхільна абвастрацца. Бо спыніць развіццё тэхпрагрэсу нельга.

Што ж зрабіць для прадухілення такой цалкам магчымай сусветнай катастрофы? Д'ябальская сутнасць саперніцтва краін у тым, што яно знітаванае не толькі з жаданнем ягоных удзельнікаў стацца мацнейшымі за іншых, а хутчэй са страхам аказацца слабейшымі за іншых. Страх якраз і вымушае дзяржавы ўключацца ў гонку ўзбраенняў. Здарылася памылковае, навукова не абгрунтаванае і не прадугледжанае прыродай перанясенне законаў барацьбы асобных індывідуумаў на барацьбу неадухоўленых дзяржаўных сістэм, што пагражае пагібеллю чалавецтва.

**НАВУКОВЫ ПАДЫХОД ДА ВЫРАШЭННЯ ПРАБЛЕМЫ ГОНКІ ЎЗБРАЕННЯЎ.** Парадокс у тым, што з навуковых пазіцый праблема гэтая цяжкасці не ўяўляе.

За чым жа справа сталася? За тым, што кожная дзяржава, ведаючы надзейныя спосабы абароны сваіх грамадзян ад беззаконня, ведаючы шляхі вырашэння любых **унутрыдзяржаўных** канфліктаў, зацыкліваецца на перакананні, што такія магчымасці не для спраў **міжнародных**. Але чаму?!

Ва ўсе часы, ва ўсім свеце скарыстоўваецца ўсімі дзяржавамі ўхвалены "паліцэйскі набор": паліцыя, суд, пакаранне вінаватых. І пакуль не прыдумана ніякага іншага спосабу абароны сваіх грамадзян ад самавольства. Відавочна, таму, што іншага не дадзена. Альтэрнатывы знойдзенаму падтрыманню міру ў чалавечым супольніцтве не існуе.

Выснова: гэтая ж апрабаваная стагоддзямі **ўнутрыдзяржаўная** мадэль абароны ад злачынстваў, абароны слабых ад моцных пры дапамозе сілавых праваахоўных органаў з яшчэ большай падставай мусіць быць перанесена, і чым хутчэй, тым лепш, на сусветны правапарадак, на **міждзяржаўны** ўзровень (такое перанясенне некаторых залежнасцей або заканамернасцей з аднаго ўзроўню на другі ў матэматыцы завецца рэкурэнтнай працэдурай). Навука сцвярджае, што толькі такая мера — стварэнне планетарнага міратворчага "паліцэйскага" органа — можа спыніць гонку ўзбраенняў незалежных і нікім не кантралюемых дзяржаў. Многія мысліцелі мінуўшчыны і сучаснасці пісалі пра гэта.

Як гэта зрабіць? Вядома, гэта навукова-тэхнічная праблема. І таму яна вырашальная.

**Першая** ўмова. Усеагульнае перакананне, што без такога нова-ўвядзення — адзінага міратворчага органа — чалавецтва загіне ў міжусобнай барацьбе сучасных і будучых незалежных дзяржаў, якія валодаюць фантастычнай зброяй. **Другое**. Гатоўнасць усіх краін ахвяраваць малым (пайсці на кантралюемае абмежаванне сваіх арсеналаў і на забарону ваенных дзеянняў па сваім меркаванні) у імя вялікага — пазбаўлення ад пагрозы ўсеагульнага катаклізму.

У сучасным свеце, што стаўся цесным, дзякуючы тэхнічнаму прагрэсу, мусіць існаваць адзін ваенізаваны (паліцэйскі) праваахоўны цэнтр. Не два, не тры і ніяк не больш, якія б праціборствавалі між сабой. Гэтая думка навукова абгрунтаваная. Ад таго, ці здолеюць зразумець яе зямляне, цяпер залежыць жыццё і цывілізацыя на планеце.

**ПАТРЭБНЫ "САВЕТ БАГОЎ".** Такім чынам, праблемы міру павінны стацца вышэйшымі за інтарэсы кожнай дзяржавы дзеля спакою і дабрабыту людзей, якія насяляюць яе. Але дзе той "Савет Багоў", што зоймецца гэтым і які ўпаўнаважаць і аснасцяць неабходнымі рэсурсамі (у тым ліку ўзбраеннем, без чаго не абысціся)? Відаць, такі савет не з'явіцца сам сабой. У свеце склаўся фатальны парадокс: адзіная **ўнутрыдзяржаўная** ўлада ёсць, а **агульнапланетарнай** адзінай улады няма. Застаецца адно: утварыць глабальнае ўпраўленне, чые рашэнні, якія тычацца ўзбраенняў і ваенных дзеянняў па-за межамі дзяржаў, абавязковыя для ўсіх суб'ектаў сусветнага супольніцтва; упраўленне, якое ўзяло б на сябе ролю цывілізаванага арбітра, а калі патрэбна, дык і паліцыянта. Гэта павінна быць не такая бездапаможная арганізацыя, якой была Ліга нацый пасля першай або ААН пасля другой сусветных войнаў. Размова ідзе пра эфектыўную "паліцэйскую ўправу" планеты з прадстаўніцтвам усіх краін. Яе сіла і аб'ектыўнасць мусяць быць такія пераканаўчыя (а зрабіць гэта магчыма, бо гэта — справа тэхнікі), каб з пазіцый міжнароднага права папярэдзіць або пагасіць любыя канфлікты або нячыстыя замеры, што выношваюць міжнародныя экстрэмісты, а таксама забяспечыць кантроль за ўзроўнем узбраенняў дзяржаў.

Інакш чалавецтва асуджана на пагібель.

**Анатоль ДАБРАЛЮБАЎ,**
**доктар тэхнічных навук.**
г. Мінск.

Некаторыя былі ў акулярах, іншыя — пры плешы. Высокіх бландзінаў сярод іх было малавата. Але Філін прыйшоў не адзін, а ў суправаджэнні Генеральнага дырэктара. Па дарозе ён расказаў дырэктару пра свае ліхтугі з пошукамі "арыйцаў".

Рэжысёр, убачыўшы трэці варыянт арыйцаў, які знешне ў пяткі не гадзіўся двум мінулым, узвіўся яшчэ з парога, але з выгляду захоўваў спакой.

— Я не магу так працаваць, — сказаў ён спакойна, апелюючы ў асноўным да дырэктара студыі. — Трэці раз прашу па-чалавечы прывесці да мяне хоць бы крыху падобных на немцаў тыпажоў. А ён цягне то татараў, то нейкае яўрэйскае казацтва... Ну проста здзекуецца з маіх задум. Я так не магу.

— Ну, добра, — заспакойваў яго дырэктар, — а гэтымі вы чаму не задаволеныя?

— Ну вы ж самі бачыце, якія гэта немцы? Звычайныя нашы разанскія твары... Вось вы, таварыш, скажыце, дзе вы нарадзіліся? — звярнуўся ён да сімпатычнага бландзіна "групоўкі".

— Выбачайце, я дрэнна каваріт па-руску. Я ест немец з ГДР. Мяне знайшоў таварыш Філін. Для кіно. Для немца.

Астатнія таксама аказаліся сапраўднымі выхадцамі з Нямеччыны. Пасля класічнага прыёму "стоп-кадр", прыдуманага яшчэ Мікалаем Гогалем у ягоным сцэнарыі "Рэвізор", рэжысёр атрымаў тое, што прасіў — сапраўдных, па пашпарту, немцаў. А Філін застаўся на карціне.

## СЯБРОЎСТВА, ПРАВЕРАНАЕ ГАДАМІ



● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Трыццацігадовае сяброўства звязвае вядомага беларускага эстраднага артыста, кіраўніка студыі "Сябры" Анатоля Ярмоленку з заслужаным артыстам Украіны, дырэктарам і мастацкім кіраўніком Чарнігаўскай абласной філармоніі Іванам Семяненкам. А пачалося ўсё, калі Анатоль Ярмоленка толькі пачынаў свой творчы шлях у Гомелі. У тыя часы, без мытняў і межаў, чарнігаўскія і гомельскія музыканты абменьваліся гастрольнымі паездкамі, ладзілі сумесныя выступленні. Зараз, на жаль, гэта адбываецца рэдка, але сяброўства праверанае дзесяткамі гадоў, па-ранейшаму моцнае.

**БелТА.**

ПРЭМ'ЕРА: ПЕРШЫ ТЭАТР ГІМНАСТЫКІ

**У канцэртнай зале "Мінск" адбылося першае прадстаўленне Тэатра гімнастыкі. На прэс-канферэнцыі, арганізаванай Нацыянальным алімпійскім камітэтам Беларусі, гаспадыня і мастацкі кіраўнік тэатра Яўгенія Паўліна і яе калегі прыадкрылі некаторыя дэталі прэм'еры.**

**Заўважым, што прэзентацыя Тэатра гімнастыкі адбылася ў Палацы Рэспублікі. Гімнасткам выпаў гонар абнавіць сцэну палаца. Публіка там была прывілеяваная (кіраўнікі вышэйшага рангу, дэпутаты і г. д.), і білеты не прадаваліся. Сапраўднае тэатральнае жыццё пачнецца ў хуткім часе. А пакуль чэмпіёнка Еўропы, віцэ-чэмпіёнка свету, заслужаны майстар спорту Яўгенія ПаЎліна адказвае на пытанні.**



# ЧЭМПІЁНКІ ПЕРАТВАРАЮЦЦА Ў АКТРЫС

**— Як з'явілася ідэя стварыць такі тэатр?**

— Мастацкая і спартыўная гімнастыка — спецыфічныя віды спорту. 20-гадовых нярэдка называюць "бабулькамі". Многія пакідаюць памост яшчэ раней. Пры гэтым часта застаюцца не да канца запатрабаванымі і творчы патэнцыял, і напрацаванае гадамі сістэматычных трэніровак майстэрства гімнастак. Стварэнне Тэатра гімнастыкі — гэта магчымасць для спартсменак высокага класа пасля развітання з вялікім спортам рэалізаваць свае магчымасці, але ўжо ў галіне мастацтва.

**— У чым адрозненне тэатральных выступленняў ад спартыўных?**

— Мастацкая гімнастыка — гэта спалучэнне спорту і мастацтва. Выступленні ў спартыўных спаборніцтвах строга рэгламентаваныя неабходнасцю дэманстрацыі пэўных элементаў. Там спартсменкі выступаюць у большай ступені для суддзяў, каб атрымаць высокія адзнакі. У тэатры на першы план выходзіць мастацтва. З'яўляецца магчымасць паказаць віртуознасць рухаў і валоданне прадметам. Мне асабіста гэта бліжэй.

**— Раскажыце пра вашых актрыс.**

— У трупе пакуль 12 чалавек: 4 заслужаныя майстры спорту — сёміразовая чэмпіёнка свету і васьміразовая чэмпіёнка Еўропы Ларыса Лук'яненка, чэмпіёнка свету і Еўропы ў індывідуальных практыкаваннях Таццяна Агрызка, чэмпіёнка свету і Еўропы ў групавых практыкаваннях Вольга Зайцава.

**— І Яўгенія Паўліна.**

— Майстры спорту міжнароднага класа — сярэбраны прызёр першынства кантынента Эліна Асядоўская, уладальніца Кубка свету ў складзе клубнай каманды "Дынама" Вольга Перапяліца, Надзея Волкава, майстры спорту Наталля Паўлоўская і Жанна Чапялова. І дзве спартыўныя гімнасткі — чэмпіёнкі сусветнай Універсіяды сёстры Вольга і Юлія Юркіны.

Сярэдні ўзрост дзяўчат — 20 год.

**— І ўсе незамужнія?**

— Дзве маюць сем'і. Напрыклад, Таня Агрызка паспяхова спалучае абавязкі мамы і актрысы.

**— А мужчын у вас няма?**

— Пакуль толькі адзін — Руслан Калінкоў, у мінулым артыст эстрады. З'явяцца ў нас і іншыя хлопцы. Магчыма, нават Іван Іванкоў, вядома, пасля выступлення на Алімпійскіх гульнях.

**— Як да вашай задумы ставяцца спецыялісты, у прыватнасці, галоўны трэнер зборнай па мастацкай гімнастыцы Ірына Ляпарская?**

— Ірына Юр'еўна была на нашай прэзентацыі, сказала: "Малайцы, дзяўчаты!"

Гэты год — алімпійскі, і я не хачу нейкім чынам перашкаджаць трэнерам і спартсменкам рыхтавацца да Гульняў. (Дарэчы, Ларыса Лук'яненка пакуль спалучае работу ў зборнай камандзе і ў нас). А ў будучыні планую запрашаць дзяўчат да нас на працу.

**— І замежных зорак?**

— А навошта, калі ў нас так многа сваіх.

**— Вы спалучаеце абавязкі мастацкага кіраўніка і актрысы...**

— Паспрабую гэта рабіць, пакуль будзе хапаць сіл. Уласна кажучы, толькі зараз, калі сутыкнулася з арганізацыйнымі праблемамі, зразумела, што гэта такое.



**— У вас кантрактная сістэма?**

— Так.

**— Пад чыімі крыламі знаходзіцца тэатр?**

— Ні пад чыімі. Ён прыватны.

**— Гэта значыць — асабіста ваш?**

— Так. Але я павінна сказаць, што яго ўзнікненне было б немагчымае без адабрэння Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі і вялікай дапамогі кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча. Дзякуючы яму, наша прэзентацыя прайшла ў Палацы Рэспублікі. Арганізацыя прэм'еры была б цяжкаватай без фірмы "Тыгрыл-Транс" (дырэктар — Вячаслаў Лапідус).

**— Крыху аб сваёй праграме...**

— Яе працягласць — каля паўтары гадзіны. У ёй будуць выкарыстаны і старыя, вядомыя публіцы нумары, і новыя. Пастаноўкай займаліся Наталля Сцяпанава і Кацярына Кацельнікава, якая прыязджала з Германіі. Мне здаецца, за кароткі тэрмін — два месяцы — шмат чаго атрымалася.

**— Кошт білетаў?**

— Нам прапаноўвалі зрабіць іх па 15 тысяч рублёў, але мы не хацелі заломваць цану. Па-першае, у нашых людзей лішніх грошай няма, па-другое, мы яшчэ "не раскручаныя". Білеты каштуюць 1, 5, 6 тысяч.

**— Геаграфія гастроляў?**

— Гэту праграму будзем паказваць у Беларусі, але ёсць запрашэнні з блізкага замежжа і Еўропы. Прапанавалі нам выступіць і на фестывалі "Славянскі базар".

**— Ці ёсць задумы пра новыя пастаноўкі?**

— Канешне. У працэсе выступленняў будзем шукаць свой стыль, свой накірунак. Тады будзе зразумела, якой павінна быць новая праграма. Але мы ж гэтую яшчэ не паказалі!

**— Удалага старту вам і вашым калегам!**

**Барыс ТАСМАН, "БДГ".**

НА ЗДЫМКАХ: фрагменты гімнастычнага шоу.

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА,** БелТА.

СМАЧНА ЕСЦІ!

## САЛЯНКА БЕЛАРУСКАЯ РЫБНАЯ З АДВАРАНАЙ БУЛЬБАЙ

Траску, акуня ці судака разабраць на філе (без касцей), нарэзаць кавалкамі і адварыць у невялікай колькасці вады.

Ачышчаныя, нарэзаныя салёныя агуркі пакласці ў неглыбокую каструлю, дабавіць каперсы, падсмажаную цыбулю, рыбны булён і варыць пры закрытай крышцы на працягу 10—15 хвілін на малым агні.

Ачышчаную свежую капусту нарэзаць, пакласці ў асобную каструлю, дабавіць сметанковае масла, ваду, накрыць каструлю крышкай і тушыць прыкладна 40 хвілін. Потым дабавіць падсмажаную цыбулю, тамат-пюрэ, воцат, цукар, соль, лаўровы ліст, перац і тушыць да гатоўнасці.

Калі капуста будзе гатова, пакласці ў каструлю падсмажаную з маслам муку, размяшаць і пракіпяціць. Свежую капусту можна замяніць квашанай, але тады не трэба дабаўляць воцат.

У глыбокую скавараду пакласці слой тушанай капусты, на яе кавалкі гатовай рыбы, затым слой агуркоў з каперсамі і другі слой тушанай капусты. Зверху пакласці адвараную бульбу, нарэзаную кавалачкамі, пасыпаць сухарамі, апырскаць маслам і запячы ў духоўцы.

*500 г рыбы, 200 г агуркоў, 80 г каперсаў, 1 цыбуліна, 2 бульбіны, 4 сталовыя лыжкі масла, 1 сталовая лыжка паніровачных сухароў, соль.*

*Для тушанай капусты: 800 г капусты, 2 цыбуліны, 2 сталовыя лыжкі тамат-пюрэ, 1 сталовая лыжка 3-працэнтнага воцату, 1 сталовая лыжка цукру, 1 сталовая лыжка мукі, 2 сталовыя лыжкі масла, соль.*

КРЫЖАВАНКА

## *ПЕРАКЛАДЗІ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ*

**СЛОВЫ ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Свадьба. 3. Деятель. 5. Кнут. 8. Скромность. 10. Салфетка. 11. Удочка. 12. Уксус. 13. Пастбище. 16. Наряд. 18. Воспитание. 19. Сирень. 20. Хлопок. 21. Колесо. 22. Очевидец. 24. Сказка. 28. Летучая мышь. 30. Совет. 31. Плен. 33. Часть. 34. Калитка. 37. Шиповник. 38. Погремушка.

**СЛОВЫ ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Деревня. 2. Кукла. 3. Одуванчик. 4. Очередь. 6. Общество. 7. Июнь. 9. Ржавчина. 10. Страница. 13. Смородина. 14. Восхищение. 15. Сеятель. 17. Талант. 18. Сентябрь. 23. Ярмарка. 24. Шляп[illegible] 25. Рассвет. 26. Сокровище. 27. Приволье. 29. Рожь. 32. Пар. 35. Вещь. 36. Крыша.



**Склала Л. ЮНАВА.**

ЖАРТЫ

**Ля студні шчабечуць дзве маладзіцы.**

**Першая:**

**— Не ведаеш, Ганначка, ці трывалы на нашай рэчцы лёд?**

**Другая:**

**— Яшчэ які трывалы! Сёння п'яны мужык вяртаўся з вяселля на карачках, то лёд нават і не трэснуў.**

* * *

**У бывалага бюракрата аднойчы запыталі:**

**— Колькі ў вашай сям'і дзяцей?**

**— Па гэтаму пытанню, папярэдне зарэгістраваўшы яго, звяртайцеся да маёй жонкі.**

* * *

**— У вас цукар ёсць? — пытае бабулька ў маладзенькай прадаўшчыцы.**

**— Не, няма.**

**Бабуля агледзела вітрыну і кажа:**

**— Дык вось жа, ёсць.**

**— А гэта, бабуля, не цукар, а сахар.**

**— Няўжо! — здзівілася старая. — Век пражыла, а не ведала.**

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльныя карэспандэнты Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2062.
Падпісана да друку 21.8.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).